ЛіМ
ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ
# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
11 лютага 1994 г. № 6 (3728) Кошт 50 руб.

## ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ І ПІНСКАЯ ШЛЯХТА




***Вось так на радзіме В. Дуніна-Марцінкевіча «шануюць» яго памяць... Пра радавод пісьменніка, яго жыццёвыя сцежкі, гісторыю напісання «Пінскай шляхты» разважае ў сваім літаратурным даследаванні Уладзімір ЛІПСКІ.***

**5, 12**

## СІНДРОМ АДНАГО АНАЛІЗУ

***Два водгукі на першую кнігу Пятра ВАСЮЧЭНКІ «Белы мурашнік».***

**6—7**

## «І Я, І ЯНЫ — АХВЯРЫ...»

***Антон ЖЭБРАК: «Мы ўсе былі маральнымі і палітычнымі кастратамі. Еўнухамі. У нас не было маральнай волі, волі самастойных, асабістых адносін да жыццёвых з'яў, выканання сваіх поглядаў. Была жалезная партыйная дысцыпліна — або падпішы, або палажы партбілет. А што значыцца кінуць партбілет? Гэта ўсё роўна, што плюнуць у твар партыі і яе вышэйшага кіраўніцтва. І жыццё тваё скончана».***

**13**



## «КАБ НЕ МАЎЧАЛА ДУША, КАБ ЧУЦЬ СПЕЎ ПРЫРОДЫ»

***Нядаўна адзначыў сваё 80-годдзе народны мастак Беларусі Павел Васільевіч Масленнікаў.***

Тэатральны жывапісец, пейзажыст, мастацтвазнаўца і педагог, захавальнік класічных традыцый, якія маюць працяг у творчасці многіх яго выхаванцаў, сведка складанай для творцы эпохі, ён стаіць па-за групамі і плынямі, па-за спрэчкамі аб суадносінах мастацтва і палітыкі.

Мастак вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы, потым у Рэпінскім інстытуце ў Ленінградзе, прайшоў вайну, працаваў мастаком-пастаноўшчыкам у Дзяржаўным тэатры оперы і балета /на жаль, за часам ад ягоных дэкарацый нічога не засталося/ ды больш за трыццаць год аддаў Тэатральна-мастацкаму інстытуту...

Цяпер для яго галоўнае, бадай, — жывапіс. Юбілейная выстава сабрана з работ апошніх пяці год. І сілы знаходзяцца ў майстра браць у рукі мальберт, пэндзлі, каб ухапіць яшчэ адзін непаўторны момант жыцця. «Каб не маўчала душа, каб чуць спеў прыроды», — гаворыць мастак.

**Н. Ш.**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

**Галоўнымі тэмамі тыдня былі маючае адбыцца падпісанне заключных дакументаў па рублёвай зоне і маючы адбыцца палітычны страйк.**

**Дазволім сабе параўнанне: як юрыдычнае афармленне шлюбу яшчэ не ёсць гарантыя шчаслівага жыцця, так і падпісанне папер пра «аб'яднанне» грашовых сістэм само па сабе яшчэ не можа абараніць «рублёвае сямейства» ад скандалаў і крутых разборак на тэму «хто ў хаце гаспадар?» А дзе скандалы, там і развод. А пасля разводу людзі часам застаюцца ворагамі на ўсё жыццё.**

**Што «рублёвая зона» ўсё роўна, скажам так, ляснецца, ведаюць сёння ўсе, акрамя нашага прэм'ера. І ўжо зараз трэба думаць, якія стасункі будуць паміж Беларуссю і Расіяй пасля непазбежнага «разводу». Ці варта праваказаць русафобію на Беларусі і нянавісць да беларусаў у Расіі?**

**Хацелася б спадзявацца, што палітычны страйк прымусіць аматараў небяспечных авантур задумаца калі не аб лёсе беларускай дзяржавы, дык хаця б аб лёсе ўласным.**

### ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Пасля таго, як на чале нашай дзяржавы стаў генерал, новага прэс-сакратара завёў сабе прэм'ер-міністр — палкоўнік У. Замяталін, які раней камандаваў прэс-службай Міністэрства абароны. Прэм'ер не так даўно сказаў: «Мы будзем камандаваць сродкамі масавай інфармацыі». Мяркуючы па першай заяве навапечанага прэс-сакратара, Кебіч слоў на вецер не кідае.

### ПАТЭРНАЛІЗМ ТЫДНЯ.

Як паведаміў Белінфарм, на афіцыйных провадах беларускіх спартсменаў на XVII зімовыя Алімпійскія гульні Старшыня Савета Міністраў Кебіч «па-бацькоўску пажадаў нашай камандзе добрага настрою і поспехаў у маючай адбыцца нялёгкай спартыўнай барацьбе». Вось так! Мелі мы калісь «бацьку Сталіна», потым сорак год былі сіротамі, а цяпер маем «бацьку Кебіча»...

### ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

«От КЕБИЧевания до поГРИБения — один шаг» /«Добры вечар», 7 лютага/.

### ЧУТКА ТЫДНЯ

Кажуць, што аб'яднаюць Міністэрства культуры і Міністэрства інфармацыі, а на чале наватвора паставяць «ідэолага» Івана Антановіча. Калісьці сп. Антановіч узначальваў аддзел культуры ЦК КПБ, а цяпер вось будзе міністрам. Усе вяртаюцца на кругі свая?

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Я выдатна разумею сапраўдную прычыну свайго звальнення. Яна не з'яўляецца сакрэтам, пэўна, ні для кога. Усе добра памятаюць наш з Уладзімірам Ягоравым знакаміты адкрыты ліст. Мне незразумела іншае: фармулёўка, з якой звольнілі з пасады. Мяне ж абвінавацілі ў парушэннях заканадаўства! Але які ж артыкул ці нават літару закона я парушыў? Мая «віна», напэўна, у тым, што я зрабіў усё, каб Камітэт дзяржбяспекі працаваў на карысць Беларусі, яе народа, а не асобных чыноўнікаў» /«Звязда», 8 лютага г.г. «Ранішні званок Эдуарду Шыркоўскаму»/.

### ТРАГЕДЫЯ ТЫДНЯ

У суботу на гарадскім рынку ў Сараеве /Боснія/ выбухнула міна. Загінула 68 чалавек, каля двухсот паранена. На Захадзе мяркуюць, што адказнасць за тэрарыстычны акт нясуць сербы, якія трымаюць баснійскую сталіцу ў аблозе. Краіны НАТА абмяркоўваюць магчымасць нанясення бомбавых удараў па сербскіх пазіцыях.

### ІМІДЖ ТЫДНЯ

Сярод замежных палітыкаў, якія найбольш сімпатычныя палякам, на першым месцы — Біл Клінтан, за ім — Маргарэт Тэтчэр і Вацлаў Гавел. Сярод «аўтсайдэраў» — Уладзімір Жырыноўскі. Тры чвэрці апытаных назвалі яго фашыстам.

### ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

С. Антончык, В. Алампіеў, І. Герасюк — народныя дэпутаты Беларусі — надрукавалі ў «Народнай газеце» за 8 лютага артыкул «Некалькі пытанняў Ваеннаму савету ўнутраных войск МУС Рэспублікі Беларусь». Аўтары падрабязна аналізуюць вядомую заяву Ваеннага савета і выказваюць надзею, што адказы камандавання ўнутраных войск на пастаўленыя пытанні /па сутнасці, афіцыйны дэпутацкі запыт/ дазволяць высветліць, хто ў Рэспубліцы Беларусь «сомнительными методами борется за власть».

### ПРАТЭСТ ТЫДНЯ

Акадэмічная рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выступіла з пратэстам супраць заблакіравання дэпутацкай большасцю ВС артыкула новай Канстытуцыі краіны аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Чарговым здзекам з тутэйшых людзей і ганьбай на ўвесь свет можа быць абвяшчэнне рэферэндуму па моўным пытанні. Неразумна пытацца ў народа, які пад прэсам чужой палітычнай кан'юнктуры амаль страціў нацыянальную свядомасць, ці патрэбна яму родная мова.

### АБЯЦАННЕ ТЫДНЯ

Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета В. Кузняцоў на сустрэчы з бельгійскімі парламентарыямі выказаў меркаванне, што ў лютым Вярхоўны Савет прыме рашэнне аб даце датэрміновых выбараў вышэйшай заканадаўчай улады. Цікава, на які час будуць у тым разе прызначаны датэрміновыя выбары? Мо на сакавік 1995 года?

### НАВАСЕЛЛЕ ТЫДНЯ

У суботу, 5 лютага, прайшла першая багаслужба ў памяшканні Кафедральнага Рыма-каталіцкага касцёла Прасвятой Дзевы Марыі. Апошнімі гаспадарамі будынка былі спартсмены.

### НАМЕР ТЫДНЯ

Рэспубліканскі страйкам мае намер падаць у суд на М. Грыба, які ў парушэнне існуючага заканадаўства даў КДБ даручэнне высветліць, ці няма ў рашэнні страйкама аб правядзенні палітычнага страйку заклiку да гвалтоўнага звяржэння ўлады. Даваць падобнае даручэнне КДБ можа пасля абмеркавання дакументаў на сам пасяджэнні толькі Вярхоўны Савет шляхам галасавання, але не старшыня.



З нагоды

# ГАДЗІННІК ЗАВЕДЗЕНЫ?

## ВАКОЛ УСЕБЕЛАРУСКАГА ПАЛІТЫЧНАГА СТРАЙКУ

7 лютага Рада страйкавых камітэтаў Беларусі разам з прадстаўнікамі незалежных прафсаюзаў і ФПБ, шэрагу палітычных партый і рухаў /Беларускі народны фронт, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Аб'яднаная дэмакратычная партыя, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць, Партыя народнай згоды, Нацыянальна-дэмакратычная партыя, іншыя/, што падтрымліваюць палітычны страйк, абмяркоўвала акцыю, запланаваную на 15 лютага. Адзначалася, што страйкі ўжо адбываюцца ў розных гарадах, на розных прадпрыемствах Беларусі, але неабходна сабрацца разам, каб прадэманстраваць ураду і Вярхоўнаму Савету сваю сілу і сур'ёзнасць намераў.

Патрабаванні былі сфармуляваны яшчэ ў пастанове Рады страйкамаў ад 2 лютага: адстаўка ўрада, утварэнне ўрада народнага даверу на пераходны перыяд, датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет на шматпартыйнай аснове не пазней 4 сакавіка па новым законе аб выбарах.

Тады ж, 2 лютага, быў прыняты зварот да народа Беларусі з заклікам аб падтрымцы страйку і зварот да Беларускага войска і ўнутраных войск, дзе гаварылася: «Ваш абавязак — абарона Айчыны і барацьба са злачынцамі... Мы заклікаем Вас не рабіць сілавых дзеянняў...»

А. Дабравольскі /Аб'яднаная дэмакратычная партыя/ выступіў з прапановай правесці напярэдадні страйку «круглы стол», на якім Рада страйкамаў, прафсаюзы, партыі, кіраўніцтва Вярхоўнага Савета — прасцей кажучы, усе зацікаўленыя бакі маглі б пашукаць згоды. Гэтае пытанне абмяркоўвалася досыць доўга. Рысу падвёў З. Пазняк. Ён растлумачыў, што перамовы з уладай да страйку не маюць ніякага сэнсу. Плённасць перамоў залежыць ад таго, колькі людзей прымуць удзел у акцыі.

Прадстаўнік афіцыйных прафсаюзаў сказаў прыблізна наступнае. Ён не разумее тых, хто тут гаворыць аб падтрымцы страйку, бо яны /афіцыйныя прафсаюзы/ яшчэ не вырашылі, быць страйку ці не, падымаць працоўных альбо не. Афіцыйныя прафсаюзы будуць вырашаць гэтае пытанне толькі 10 лютага, і ўвогуле яны настроены даць ураду Кебіча час да 20 лютага, каб удасканаліць сістэму ўлады.

Такая пазіцыя не сустрэла разумення ў астатніх. Ва ўрада было досыць часу, каб зрабіць нешта карыснае для Беларусі, але час гэты змарнаваны. Адтэрміноўка страйку можа прывесці да расколу рабочага руху, падарваць давер да Рады страйкамаў.

Па выніках сустрэчы быў прыняты ультыматыўны зварот да ўлады. Яго сэнс: да 14 лютага выканаць патрабаванні Рады страйкамаў, іначай — бестэрміновы страйк.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# СЛАВА ПРОДКАЎ — НАШ ГОНАР

Адзначаючы 430-ыя угодкі перамогі найвышэйшага гетмана Вялікага княства Літоўскага Міколы Радзівіла Рудога над маскоўскім войскам Івана Жахлівага, БЗВ і яго Віцебская ды Новалукомская філіі правялі патрыятычную акцыю — усталявалі мемарыяльную дошку на месцы бітвы. Падзея адбылася пад пільным вокам ці не ўсяе раённае міліцыі, пракуратуры ды іншых «заинтересованных». Вялізны камень пры дарозе ў вёску Іванск Чашніцкага раёна — сведка славутай перамогі — атрымаў мемарыяльную шыльду ды аздабленне з вянка і гірлянды, быў асвечаны святаром. Перад прысутнымі на цырымоніі выступілі кіраўнікі БЗВ, гісторыкі, народныя дэпутаты, паэты.

Пасля Іванска аўтобусы з дэлегацыяй накіраваліся ў Віцебск, дзе іх ужо чакалі на ганку Акадэмічнага коласаўскага тэатра людзі як з дзяржаўнымі сцягамі, так і з трыкалорамі СС «Белая Русь», а такcама пад чырвонымі сцягамі. Інцыдэнтаў, дзякуй Богу, не было. Тут выступілі гісторык І. Саверчанка, старшыня БЗВ М. Статкевіч, народны дэпутат З. Пазняк, барды. Імпрэза прайшла арганізавана. Кіраўніцтва БЗВ выказвае падзяку апанентам са «Славянскага сабору»,камуністам ды іншым прадстаўнікам НДБ за ўдзел у патрыятычнай акцыі БЗВ.

Завяршылася віцебская вандроўка ў перапоўненай зале тэатра /адміністрацыя нават мусіла абмежаваць уваход/, дзе перад выбаршчыкамі выступілі народныя дэпутаты.

**Алесь СТАНКЕВІЧ**

*Фота аўтара.*

# ЦІ СТАНЕ ПОЛАЦК ГОРАДАМ-МУЗЕЕМ?

***Полацкі гісторыка-культурны запаведнік — гэта 18 помнікаў гісторыі, археалогіі і культуры, гэта 44 гектары ахоўнай тэрыторыі, на якой яшчэ чакаецца адкрыццё новых помнікаў. Запаведнік у Полацку — гэта праца гісторыкаў, археолагаў, даследчыкаў, канцэрты арганнай музыкі, шматлікія выставы, святы, імпрэзы. Але запаведнік — гэта яшчэ і шмат праблем, многія з якіх павінны вырашацца не толькі ў Полацку. Сённяшняя размова Ірыны ЖАРНАСЕК з дырэктарам Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка Таццянай РУДАВАЙ тычыцца менавіта гэткіх праблем.***

**— Таццяна Давыдаўна, Сафійскі сабор часам называюць сэрцам запаведніка, і таму зразумела, як устрывожылі грамадскасць чуткі аб тым, што па яго скляпеннях пайшлі трэшчыны. Наколькі гэта сур'ёзна?**

— Безумоўна, галоўны помнік у запаведніку — Сафійскі сабор, помнік XI—XVII стагоддзяў. Мы вельмі ўважліва назіраем за ім, і нас надзвычай устрывожылі трэшчыны, якія з'явіліся літаральна ў апошнія гады. Фактычна, склалася перадаварыйная сітуацыя. Летась навукоўцамі Беларусі і Санкт-Пецярбурга былі праведзены сур'ёзныя даследаванні гэтага унікальнага помніка. Даследаванні праводзілі археолагі, сейсмолагі, геолагі, геадэзісты. Яны прыйшлі да высновы, што скляпенні помніка патрабуюць значнага ўмацавання. Цяпер рыхтуецца неабходная для гэтых работ дакументацыя. Вырашана таксама ўстанавіць прыборы, якія будуць фіксіраваць самыя дробныя адхіленні ў «здароўі» помніка.

**— А якія прычыны трэшчын? У народзе ходзіць шмат чутак ды здагадак аб прычынах іх з'яўлення.**

— Ужо некалькі гадоў да нашай цеплатрасы падключаны медыцынския ўстановы, а гэта стварыла адхіленні ў неабходным тэмпературна-вільготнасным рэжыме. Спецыялісты сцвярджаюць, што не абышлося і без уплыву падземных вод, паветраных сейсмічных стрэсаў, зрухаў зямной кары /маецца на ўвазе землятрус у Румыніі/.

**— А вось айцец Міхаіл Уляхін настойліва сцвярджае, што прычынай трэшчын сталі канцэрты арганнай музыкі. Што наконт гэтага кажуць навукоўцы?**

— У часе канцэртаў праведзены неабходныя даследаванні спецыяльнымі прыборамі ў розных месцах храма. Ніякага адмоўнага ўплыву гукаў аргана на сабор не зарэгістравана. Мы маем адпаведны дакумент, які гэта пацвярджае.

**— Скажыце, а цяпер прыняты меры па падтрымцы неабходна-**

# ЗАСПЯВАЕМ ДРУЖНА

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі, Саюз кампазітараў сталі заснавальнікамі і арганізатарамі Нацыянальнага фестывалю аўтарскай песні, які вырашана праводзіць на пачатку кожнага года ў Мінску пад назвай «Залатая Горка».**

**«Залатая Горка-94» пройдзе 25—26 лютага ў сталічным Палацы культуры чыгуначнікаў. У якасці гасцей на свята згадзіліся прыехаць вядомыя расійскія барды Сяргей Нікіцін і Аляксандр Мірзаян.**

**Правядзенне фестывалю, безумоўна, патрабуе значных фінансавых затрат. Таму заснавальнікі і арганізатары звяртаюцца да кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў і устаноў, калгасаў і саўгасаў, прадпрымальнікаў рэспублікі з просьбай падтрымаць гэтае мерапрыемства.**

**Разліковы рахунак фестывалю N 100700038 ў Гардырэкцыі Белбізнесбанка, код 764.**

**Кантактны тэлефон: 36-35-10.**

# І ДВА КАНЦЭРТЫ «КАМЕРАТЫ»...



**З 11 па 20 лютага працягнуцца гастролі Альтэрнатыўнага тэатра у Віцебску: праява па сённяшніх днях вартая настальгічнага ўздыху па старой, заможнай /?/ часіне... Буйныя і населеныя спектаклі прапануе тэатр віцебскім аматарам, знаўцам ды спецыялістам: «Трохграшовую оперу» паводле Б. Брэхта, «Каіна» паводле Д. Байрана, «Камедыю...» У. Рудава паводле К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча і парадаксальную драму Э. Іянескі «Кароль паміраe». Рэжысёры спектакляў — Вітаўтас Грагалюнас ды Андрэй Андросік з Уладзімірам Рудавым. Трэба адзначыць таксама, што ансамбль «Камерата», які бярэ ўдзел у спектаклі «Каін», рыхтуе і два самастойныя выступленні.**

*На здымку: сцэна са спектакля «Кароль паміраe» Э. Іянескі. Ігар Забара /кароль Беранжэ I/ і Яўген Жураўкін /Доктар/.*

*Фота Алены* АДАМЧЫК

# ЖЛОБІНСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ — АДРАДЖЭННЮ

**Жлобінская аб'яднаная раённа-гарадская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны дамовілася з мясцовым малым прадпрыемствам «Арыён» /дырэктар Мікола Ляўкоўскі/, якое нядаўна атрымала правы на гарадскую тэлестудыю «Прызма», аб наладжванні ў эфіры рэгулярных перадач па прапагандзе нацыянальнай культуры. Звярнуліся да настаўнікаў гісторыі, беларускай мовы і літаратуры. Запланаваны цыкл тэматычных урокаў для тых, хто слаба валодае беларускай мовай. Будуць асвятляцца мерапрыемствы, што праходзяць у школах у рамках адраджэння нацыянальнай спадчыны. Да агульнай справы актыўна падключацца работнікі культуры, самадзейныя выканаўцы горада і раёна, якія і да гэтага плённа супрацоўнічалі з тэлебачаннем.**

**А тым часам у эфір ужо выйшаў з «уступным словам» да тэлегледачоў старшыня Жлобінскай Рады ТБМ, на чарзе рэпартажы са школьных краязнаўчых музеяў сярэдніх школ NN 9 і 10.**

М. ШУКАНАЎ

З пошты «ЛіМа»

# НЕНАША «НАША НІВА»

Неяк у адной прыватнай гутарцы давялося пачуць даволі дзіўнае словаспалучэнне: «Ненаша «Наша Ніва». Падчас спрэчкі я не меў магчымасці ўдакладніць, што тым хацеў сказаць суразмоўца, бо мае адносіны да гэтай газеты з першага яе нумара былі асабліва прыязныя, падалася яна мне выключна інтэлектуальнай. Можна, вядома, прыдумаць іншыя, больш дасціпныя выразы ў вызначэнні ўзроўню гэтага выдання, але я лічу, што казаць хваласпеў газеце «Наша Ніва» проста няма сэнсу. Тут ёсць усё для душы: арыгінальныя думкі, дзіўныя меркаванні, толькі ёй уласцівы погляд на нашу рэчаіснасць, нескажоная гісторыя. Я заўжды з прыемным хваляваннем бяру кожны нумар «НН». І толькі таму, з нагоды шчырай прыхільнасці да газеты, хачу выказаць некаторыя заўвагі.

Пры ўсім нашым цяперашнім «вальнадумстве» пісьменніцкага люду і тых, хто знаходзіцца побач з імі, беларускае літаратурнае асяроддзе надзвычай бюракратычна кансерватыўнае. У гэтым плане «Наша Ніва» зусім з іншага цеста, іншага гатунку. Тым не менш, наколькі ўжо адчуваецца радыкалізм выдаўцоў і рэдактараў, але і тут, як можна заўважыць, існуе вузкае кола тых, хто мае права змяшчаць у газеце свае разнастайныя творы: нарысы, артыкулы, вершы ды апавяданні. Кажучы словамі аднаго з марксісцкіх класікаў. «Вузкае кола...» Вузкае кола, якое разарваць чужынцу проста немагчыма. Мы маем справу са звычайнай літаратурнай групоўкай, якая пільна аберагае свае шарэнгі. Але пры ўсім варта заўважыць, што тагачасная «Наша Ніва», спадкаемцамі якой выступаюць цяперашнія выдаўцы, мела зусім іншы накірунак. Тая «НН» у свой час змагла з'яднаць вакол сябе лепшыя сілы нашага грамадства. Яе ідэямі мужалі, творча раслі ды плённа супрацоўнічалі з газетай слынныя пазней паэты і пісьменнікі зямлі нашай, сусветна вядомыя навукоўцы, грамадскія і палітычныя дзеячы. Успомнім імёны некаторых з іх: Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Алесь Гарун... Спіс гэты можна доўжыць далей. І тут узнікае слушнае пытанне: ці можа цяперашняя «Наша Ніва» выконваць такую ролю? Адказ адназначны: «Не!» Адноўленая газета разлічана на інтэлектуальную эліту. Чытае яе нешматлікая колькасць. Чытаюць тыя, хто знаходзіцца ў ёй суразмоўца на сваім узроўні. А іх таксама «вузкае кола». Іншым чытачам яна недасягальная сваім узроўнем.

Яшчэ на адным аспекце хачу засярodзіць увагу. Сённяшняя беларуская мова, вострыя пытанні ўдасканалення яе правапісу вельмі актуальныя. І тут «Наша Ніва» наперадзе ўсіх. Яе памкненні адрадзіць сапраўдную беларускую мову, вярнуць ёй чыстую крынічную свежасць, зрабіць яе прыдатнай на ўсе выпадкі жыцця, ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці патрабуе ўхвалення. Апошні KALADNY NUMAR «NN» таксама на высокім узроўні, але, тым не менш, выклікае несхаванае здзіўленне: надрукаваны лацінкаю. Калі звярнуцца да гісторыі, то слушна зазначыць, што «НН» з 10/23/.11 1903 года на 24.10/8.11/1913 год друкавалася як лацінкаю, так і кірыліцаю. У той час гэта было апраўдана: тады не было ніякай іншай упарадкаванай граматыкі. Рабіліся толькі першыя крокі, першыя спробы ў тым накірунку.

Сказаўшы «а», давайце скажам і «б». Прайшоў пэўны прамежак часу. Ужо колькі гадоў паспяхова карыстаемся кірыліцай. На жаль, кепска валодаем у большасці сваёй беларускай мовaю, але ж гэта зусім іншае пытанне. Сягоння друкаванне беларускіх тэкстаў лацінкаю, пры ўсім нашым моўным разладдзі, — гэта памкненне невядома куды. /Можна толькі думаць, што выдаўцы раптам сталі працаваць на беларусаў Летувы, якія, дарэчы, наколькі я ведаю, «НН» не чытаюць. Нават беларусы Беласточчыны, што ім ужо зручней, не карыстаюцца лацінкаю/. Зараз у нас ёсць выданні, якія прытрымліваюцца выключна тарашкевіцы, большасць гутарыць з чытачом выключна «наркамаўкай», існуюць такія, што займаюць нейкі прамежкавы стан /прыклад таму — гарадзенская «Пагоня»/. Якую мэту ставілі перад сабою выдаўцы «НН», рыхтуючы цалкам нумар лацінкаю, да канца зразумела, пэўна, толькі ім самім. Аднак мне думаецца, што гэта яшчэ адзін клін у кволай справе яднання беларусаў як нацыі. Жаданне хоць нечым вылучыць сябе з шэрагу жабрацкага натоўпу, памкненне быць арыгінальным не заўжды мае плённыя вынікі, а ў іншых выпадках, наадварот, выклікае непаразуменне ды прыносіць немалую шкоду.

І яшчэ адна кароценькая заўвага. Хоць я і гарачы прыхільнік гэтага выдання, але хацелася б, каб назоў газета мела іншы. Чаму? Аб гэтым гаварылася вышэй.

**І. ПАЛУБЯТКА**

*г. Масты*

# СМЕХ І ГРЭХ

## ГУМАР ПОСТСАВЕЦКАГА ЧАСУ

***Катэгарычнае адмаўленне ці простае ігнараванне савецкага складу ў беларушчыне можа лічыцца ці то памылкай, ці то праяўленнем духоўна-інтэлектуальнай немачы і комплексу непаўнавартасці. Таму лічу, што лепшы метад «барацьбы» з мінулым ці, дакладней, яго пераадольванне — крытычнае вывучэнне і разважлівы аналіз.***

Як ні чапляйся за старое, як ні круці стрэлкі гадзіннікаў, час ідзе сваім ходам, няўмольным і заканамерным, а разам з ім крочым і мы — ці то «ў нагу», ці часцей проста цягнемся ў хвасце. Адным словам — усё цячэ, усе ўцякаюць, а хто не можа ўцячы — сядзіць тут, у нашым закамунячаным беларускім балоце. І ў выніку — дыхаць стала лягчэй, а жыць цяжэй. Аднак цягнуць гумку пакуль можна, і лепш нават не цягнуць, як наш урад, а проста надзьмуваць, як робяць дзеці і камерсанты. Кажуць, што добра адцягвае ад розных думак, а галоўнае — мацуе зубы і сківіцы, з якімі, вядома, у нас вялікія праблемы.

«Дзякуй богу і за гэта!» — чуецца мне традыцыйны адказ беларуса, заўсёды мяккага, лагоднага і гатовага быць надзьмутым, як тая гумка. Але гаворка не пра бога і беларуса, і нават не пра гумку, а пра звычайны смех.

Менавіта пра смех на нашых /і не толькі нашых/ зашмальцаваных таталітарызмам абшарах, пра той самы «знішчальны», «ачышчальны», ад якога рушацца «застоі» і праз які развітваюцца з мінулым.

Канешне, я маю на ўвазе самую дэмакратычную і вясёлую плынь савецкай культуры, якую можна азначыць як анекдатычна-эстрадны жанр, або непараможны смех на мяжы агульнага вар'яцтва. Сапраўды, і КВН, і Жванецкі, і Альтаў, і ранні Жырыноўскі, і многія іншыя байцы ды аратыя гумарыстычнай нівы ўзніклі як патрэба і наканаванне часу, як грыбы на струхлелым целе савецкай сістэмы падчас чарговай і апошняй «адлігі».

Час «застою» даў безліч нагод для асмейвання, а перабудова, акрамя таго, зняла апошнія заслоны, што стрымлівалі ўсенародны рогат. Гэтая з'ява мела найперш сацыяльныя і палітычныя вытокі і была сапраўды моцным грамадскім фактарам у разбурэнні камуністычных муроў. Аднак савецкая, а дакладней, расейская ментальнасць, не ведаючая межаў у сваіх дзеях і сяганнях, не ўтрымалася на «залатой сярэдзіне», і смех стаў сапраўды татальным. Асмейваліся праваднры і народы, начальнікі і падначаленыя, героі і антыгерoі, традыцыі і навеўвядзенні, мінуўшчына, сучаснасць і нават будучыня. Гэты ўсепранікальны смех на розных паверхах грамадства сапраўды ператрос усе «святыні і прынцыпы». «З каго смеяцеся?» — гэтаму пытанню ўжо больш як паўтараста гадоў, аднак кожны думаў, што смяецца з кагосьці іншага, чужога і непадобнага да сябе. Сапраўды, вечная і непахісная ілюзія...

Любая з'ява мае пэўныя межы, за якімі пачынаецца яе адмоўнае ўздзеянне. Не выключэнне тут і смех. Адваротны бок расейскай «выключнасці» і «богаабранасці» — традыцыйная жарсць да самапрыніжэння, юродства і перыядычнага выкачвання ва ўласным брудзе — сыграла сваю «смешную» ролю. Смяяліся ўсе, хто хацеў і хто не хацеў, насмяяліся за 70 мінулых год, а мо і нашмат год наперад. І ўсё ж эпоха Жванецкага, калі гумар быў настолькі востры, што ператвараўся ў сатыру, а сатыра настолькі вясёлая, што станавілася гумарам, зыходзіць у нябыт. Усё менш жадаючых смяяцца, усё менш нагод для пародый і жартаў, усё больш сюжэтаў для драм і трагедый. Тое, што трактуецца сёння як крызіс жанру, на самай справе ёсць ягоная смерць. Яна не наступіць раптоўна, у адзін год, але прыйдзе непазбежна. У Расеі Жырыноўскага, як і ў дзяржаве Сталіна, будзе мала месца для смеху, а тым больш для **такога** смеху. Эпоха ўсенароднага рогату наканавана пераходзіць у эпоху агульнага стогну і плачу. І толькі той, хто ўчора да слёз смяяўся, слухаючы двухсказавую рэпрызу «пра ракаў», а сёння горка плача аб дзяржаўнай велічы і ўчарашнім дні, сапраўды спазнаў таямніцу непадказальнай рускай душы. Розум тут не памочнік, зразумець яе немагчыма, да яе можна толькі далучыцца праз смех і слёзы, праз енкі і плач. Ці хіба яшчэ праз «ракаў» і «рускую белую», апошнім часам стаўшую яшчэ «крыштальна-чыстай»... Вось тут сапраўды глыбіні невычэрпныя, шырыні неабсяжныя, якім дасць рады хіба тая дзіва-тройка, што капыціць каторы раз па зачараваным коле: пасмяяліся — наплакаліся, працвярозіліся — напіліся, згаладаліся — аб'еліся, і панеслася, і папхнулася... Вось такі расейскі «перпетуум мобіле».

Але гэта справы, бадай, суседскія, а што ж наша, беларуская «двуколка», ці выедзе калі на свой шлях, ці так і будзе адным колам шкалдыбаць у чужой каляіне? Ці мо тутэйшыя майстры прыладзяць якое трэцяе, кіруючае кола? Напрыклад, наш урад зараз настолькі самастойны, што можа дазволіць смяяцца з сябе як у часы перабудовы, а нагод для гэтага дае не менш, чым пры «застоі». Але Беларусь пакуль не настолькі суверэнная, каб самастойна смяяцца. І ўсё ж надзея яшчэ ёсць, бо калі рогат быў усесавецка-агульны, беларусы прынялі ў ім даволі пасіўны ўдзел, як творчы, так і акустычна-глядацкі. А па законе захоўвання смеху і грэху — хто больш смяяўся, той больш паплача, і наадварот. Толькі ці хопіць нам той «недасмяяна-недаграшэнай» долі, каб уцяміць, што і плакаць, і смяяцца мы можам самастойна, на ўласны кошт і на свой капыл, не баючыся, што прыйдзецца расплачвацца за нечую весялосць і чужыя грахі? Нам хопіць і сваіх.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў.*

***«Бог не ўкладвае без мэты ў нашы галовы і сэрцы любві і таленту да якой-небудзь галіны ведаў. Ён мае адносна нас і нашага прызначэння свае мэты, якія мы павінны выканаць...»***

***Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ***

*/З артыкула пра В. Дуніна-Марцінкевіча/*

Уладзімір ЛІПСКІ

# ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ І ПІНСКАЯ ШЛЯХТА

## СПРОБА ЛІТАРАТУРНАГА АДКРЫЦЦЯ

Бязродныя мы.

Ад гэтага і сорамна і горка. А з гадамі яшчэ і балюча. Бо не спазнаўшы дрэва свайго, кораня, радні, мы — сіроты, абрубкі, проста пні.

Уяўляецца часцяком вялізны і доўгі стол. Справа ад мяне сядзіць бацька. Яго помню і люблю. За ім — дзед і прадзед. Іх ведаю толькі імёны. А далей, як вокам кінуць, сядзяць мае пра-пра-пра... Хто яны?

Злева ад мяне — жонка, сын, дачка, унук Антон. Далей, як вокам кінуць, пустыя месцы. Хто зойме іх? Як уславіць дрэва сямейнае?

Кажуць, трэба ўшаноўваць мінуўшчыну, дбаць пра будучыню. Дык мо пачнём са свайго гнязда, прозвішча? Праз сям'ю навучымся мацней любіць і шанаваць родную зямельку, Бацькаўшчыну.

Па сакрэту скажу: даўно-даўно збіраю па зярнятку радавод людзей, якія носяць прозвішча Ліпскія. Карані іх адшукаў амаль ва ўсіх раёнах Беларусі, у Польшчы, Германіі, Амерыцы, Канадзе, Аўстраліі. І калі хопіць часу і сіл, то напішу кнігу пра Ліпскіх, якія здаўна атабарыліся на Беларусі, якія жывуць, самі таго не ведаючы, пад рознымі гербамі і дрэвамі. Цэлы пласт людзей! Выдаць яго «на-гара», і ён, я ў тым перакананы, увойдзе новай старонкай у агульны падручнік па гісторыі нашага краю. Давайце задумаемся пра гэта, пісьменнікі, журналісты, навукоўцы. Станем «шахцёрамі» свайго радаводу, створым унікальны шматтомнік па гісторыі Беларусі.

А пакуль спяшаюся падзяліцца з вамі, удзячныя чытачы, цікавымі адкрыццямі, на якія зусім нечакана наткнуўся, разбіраючы жухлыя архівы пра Ліпскіх. Пошукі прывялі напрасткі да беларускага песняра мінулага стагоддзя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. І я цяпер дакладна ведаю, дзе знаходзіцца сталіца пінскай шляхты, з каго аўтар спісаў вобразы Івана Цюхая-Ліпскага і Івана Пратасавіцкага. Хочацца верыць, што мне вядома і галоўная тайна: чаму Дунін-Марцінкевіч напісаў «Пінскую шляхту»?

Але пра гэту навіну крыху пазней. Пакуль жа пачастую цікаўных чытачоў тымі новымі звесткамі з біяграфіі пісьменніка, якія ўдалося адшукаць у даўнейшых крыніцах.

### ГЕРБ «ЛЕБЕДЗЬ»

Родавы герб уяўляецца мне не толькі спадчынным знакам, а біяграфіяй сямейнага дрэва, своеасаблівай мемуарнай кнігай.

Радаводны герб у Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча называецца «Лебедзь». На чырвоным полі — срэбраны лебедзь. І ў кляйноце над шлемам, на кароне такі ж лебедзь. Велічная птушка з узнятымі крыламі, упэўненай постаццю выклікае давер, павагу і замілаванасць. Яна цвёрда стаіць на кароне. Яна гатова ўзляцець з яе ў нязведаныя высі.

Пачцівая птушка — як бы ў аснове падмурка герба і на яго вяршыні, на самой кароне. Гэта знак таго, што род Марцінкевічаў даўні, чысты і знакаміты. Гісторыя гэта пацвярджае: герб «Лебедзь» засведчаны яшчэ ў сярэднявеччы, з 1257 года, на зямлі Кракаўскай.

Актам гарадзельскай уніі, дзесьці ў сярэдзіне пятнаццатага стагоддзя, герб перанесены на Літву /Беларусь/. Ім карысталіся дзвесце пятнаццаць сем'яў. Адны з «прыдомкам» Дунін, іншыя — без яго. Старажытны герб мелі Дуніны-Баркоўскія, Дуніны-Галавінскія, Дуніны-Вольскія, Дуніны-Раецкія. Пад гэтым слаўным знакам хадзілі і нейкія Дуніны-Ліпскія, але пра іх пакуль не ведаю ні радка.

Карысталіся «Лебедзем» дваранскія роды: Аўдыцкія, Баневічы, Бельскія, Багдановічы, Буйніцкія, Бутрымовічы, Бжэзінскія, Галінскія, Граеўскія, Гурскія, Камароўскія, Краеўскія, Кудрэвічы, Кунцэвічы, Любінскія, Маеўскія, Мажэйкі, Петрашкевічы, Пілецкія, Сямашкі, Тамашэвічы, Валадкевічы, Завішы, Жукоўскія, Янчэўскія...

Пра сябе Дунін-Марцінкевіч сказаў у апавяданні Навума Прыгаворкі «З-над Іслачы, або Лекі на сон»:

**... Мой герб такога роду,**
**Які налічвае дванаццаць ваяводаў!**

Калі пільна прасачыць яго радавод, то можна, відаць, налічыць у розных каленах тых дванаццаць ваяводаў. Мы ж ведаем, што пачынальнікам роду Дунінаў-Марцінкевічаў быў возны Аляксандр. Дынастыю ваяводаў прадоўжыў яго сын Дзмітрый і ўнук Тамаш. У чацвёртым калене вылучыўся ротмістр гусарскай Харугвы Тодар. Яго заслугі адзначыў пахвальным патэнтам вялікі гетман Вялікага княства Літоўскага Казімір Ян Сапега.

Яшчэ аднаго Дуніна, ротмістра палявой службы Мікалая Тодаравіча, дзеда Вінцэнта, ухваліў сам вялікі гетман Міхал Казімір Радзівіл. Тут важна нагадаць, што той яснавяльможны пан Рыбанька заснаваў у Нясвіжы друкарню і прыдворны тэатр.

Пра служылы род Дунінаў-Марцінкевічаў падказвае і іх сямейны герб. У цэнтры малюнка — металічны рыцарскі шлем. Ён абараняе твар і грудзі. Зроблены элегантна, з узорыстымі ўпрыгожваннямі. Такі шлем мог насіць вой заслужаны «камандзірскага» звання.

Важна яшчэ запомніць мясціны, у якіх мелі ваяводы Дуніны свае маёнткі. Роданачальнік Аляксандр атрымаў маёнтак Марцінкевічаў у Смаленскім ваяводстве. Унукі вознага Тамаш, Якуб і Марк прадалі дзедаву сядзібу. І наступнікам Марцінкевічаў трэба было выслужваць новыя кавалкі зямлі.

Вядома, што дзед Вінцэнта, ротмістр Мікалай, карыстаўся маёнткам Высоха ў Слонімскім павеце. А пасля прадаў яго пану Блонскаму. Бацька Вінцэнта Ян і яго дзядзька Ігнат, ротмістр польскай службы, валодалі радзівілаўскім маёнткам Новы Двор. Плацілі манаршыя падаткі.

Ці то падаткі былі цяжкія, ці браты не падзялілі ўласнасць, ці тое, што Ян аўдавеў, застаўся з сынам Ігнатам ды другі раз ажаніўся, а мо ўсё гэта разам паслужыла таму, што Ян Мікалаевіч Дунін-Марцінкевіч пераехаў жыць у Бабруйскі павет.

Там, у фальварку Панюшкавічы, у Яна і Марцыяны з Нядзведскіх на пачатку стагоддзя нарадзіўся двухіменны сын Вінцэнт-Якуб, якому самім Богам было наканавана закласці новы падмурак беларускай літаратуры.

### ПАНЮШКАВІЧЫ — КАЛЫСКА ПАЭТА

На дваццаць чацвёртым годзе жыцця Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч атрымаў патэнт на званне дваранiна. Ён быў занесены ў шостую частку дваранскай радаводнай кнігі Мінскай губерні.

Для сучаснага чытача растлумачым: шаноўныя дваранскія кнігі падзяляліся на шэсць раздзелаў. У першы ўносіліся радаводы, якім дваранства прызначалася як бы за выслугі, з вяршынь улады. У другі — за ваенныя заслугі. У трэці — набытыя на службе грамадзянскай альбо атрыманыя ад нашчадкаў. У чацвёрты — залежныя роды. У пяты — тытуламі адзначаныя сем'і. У шосты — старажытныя пачэсныя дваранскія дрэвы.

З таго жніўня 1832 года землямера Мінскага павятовага межавага суда Вікенція Іванавіча Дуніна-Марцінкевіча чыноўнікі называлі не інакш, як дваранінам, панам. А сам ён?

У першым драматычным творы «Сялянка» /1846 г./ войт Навум Прыгаворка, ролю якога сыграў у Мінскім тэатры сам аўтар, так адказвае Юліі на яе запытанне: «А ты, мужык, хто такі?»:

— Мужык! Але мужык! Хоць я сабе і мужык, да ўсё не просты. Знаеш гутарку: мы і самі з вусамі. Я — войт тутэйшага сяла, Навум.

Цяга да сялянскай мудрасці, жаданне ўшанаваць і ўзвысіць мову народа, служыць яму — гэта, верыцца, успрыняў Вінцэнт з малаком маці. Тут трэба мець на ўвазе, што яго бацькі, хоць і шляхецкага роду, але свае зямлі не мелі, маёнткаў не будавалі. Гэткі статус набліжаў іх да становішча селяніна, які павінен быў пастаянна служыць, арандаваць, плаціць падаткі.

Біёграфы і даследчыкі Дуніна-Марцінкевіча пішуць коратка: «Нарадзіўся ў фальварку Панюшкавічы Бабруйскага павета ў сям'і арандатара». Мае архіўныя пошукі паглыбілі звесткі пра гэту мясціну, а яны ў сваю чаргу дапамаглі зразумець шлях пісьменніка да «Пінскай шляхты».

Маёнтак Панюшкавічы здаўна ўваходзіў у Бабруйскую Бенефіцыю. Ён, нароўні з іншымі ўладаннямі, належаў магілёўскаму архіепіскапу Сестржанцэвічу /па іншых рукапісных — і ці не больш дакладных — дакументах — Сестранцэвічу/. Прыкмеціў: калі да яго звярталіся палякі, то пісалі: «Сестржанцэвіч», калі рускія, то «Сестранцэвіч».

Поўны тытул архіепіскапа па тым часе пісаўся так: «Мітрапаліт Рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі, Архіепіскап Магілёўскі, Адміністратар Віленскай епархіі, старшыня Рымска-каталіцкай Духоўнай Калегіі ў 1-м Дэпартаменце, святога Андрэя Апостала і іншых ордэнаў Расійскіх, Польскіх і Святога Іаана Іерусалімскага, Вялікага Крыжа, Кавалер Сестранцэвіч Станіслаў-Богуш». У гэтым звароце змешчана кароткая біяграфія слыннага на Беларусі чалавека.

Духоўны айцец пражыў доўгае жыццё — дзевяноста пяць гадоў, з іх больш паўстагоддзя займаў высокую рэлігійную пасаду. Дарэчы, нарадзіўся ён у шляхецкай сям'і, бацька яго быў кальвіністам, маці — каталічкай. Хварэў з дзяцінства, для яго наймалі настаўніка, і сам ён марыў стаць хатнім настаўнікам для дваранскіх сем'яў.

Вучыўся ў кальвініцкім пансіёне, слухаў лекцыі ў Франкфурце, Амстэрдаме, Лондане. Ды нечакана для сябе стаў афіцэрам гусарскага палка. Служыў харунжым у літоўскай гвардыі. Страляўся на дуэлі і з параненай рукой пайшоў у адстаўку.

Адстаўнога капітана Станіслава Богуша Сестранцэвіча прыняла настаўнікам Радзівілаўская сям'я. Там ён закахаўся ў багатую прыгажуню. Яна паставіла ўмову: «Замуж пайду толькі за католіка». Сестранцэвіч выканаў просьбу каханай, але яна яго падманула, шлюб не адбыўся.

Душэўную рану хатняга настаўніка змог залячыць віленскі епіскап Масальскі. Ён і прывёў Сестранцэвіча да рэлігіі. Пасля багаслоўскіх курсаў у Варшаве Масальскі даў свайму вучню пасаду каноніка і багатую плябанію ў Гомелі.

Сестранцэвіча прыкмеціла царыца Екацярына II. Сваім указам ад 22 лістапада 1773 года яна прызначыла таленавітага духоўнага айца ў новую беларускую епархію і даверыла яму ўзначаліць каталіцкую царкву ў Расіі.

Сестранцэвіча ведалі Расія і Польшча. Ён быў прэзідэнтам Імператарскага вольнага эканамічнага таварыства, Ганаровым членам Маскоўскага, Віленскага, Кракаўскага універсітэтаў. Сам Фёдар Глінка, прадвадзіцель Санкт-Пецярбургскага Таварыства аматараў Расійскай славеснасці, вядомы паэт, аўтар папулярнай песні «Тройка», пісаў у Магілёў 23 снежня 1821 года: «Ваша Высокапраасвяшчэнства, маю гонар паведаміць, што Вы абраны ганаровым членам нашага Таварыства за выдатныя пазнанні Вашы ў навуках і працах на карысць айчыннай славеснасці».

Можна і далей цытаваць архіўныя паперы, якія сведчаць пра вядомасць і пачцівасць архіепіскапа. Але для нашай тэмы важна адзначыць, што Сестранцэвіч быў блізкім сваяком Марцыяны Нядзведскай, кажуць, родным дзядзькам. І калі яна выйшла замуж за Яна Марцінкевіча, даў прытулак ім у маёнтку Панюшкавічы.



Марцыяна нарадзіла жаданага сынка Вінцэнта, якога ахрысцілі ў Бабруйскім касцёле. А Ян Марцінкевіч хутчэй за ўсё служыў адміністратарам у маёнтку. Гэты каштоўны і дужа прывабны куточак, відаць, любіў і наведваў сам архіепіскап Сестранцэвіч, бо давяраў яго толькі людзям надзейным.

Вядома, што з 1817 года адміністратарам у маёнтку Панюшкавічы быў тытулярны саветнік Станіслаў Сестранцэвіч, пляменнік архіепіскапа. У той час Вінцэнту споўнілася дзевяць гадоў. Пазней ён сам напіша пра сябе: «З дзяцінства асірацелы...» Дык вось, той адміністратар Панюшкавіч Сестранцэвіч, якога дзядзька архіепіскап «снабдил полною доверенностью по управлению хозяйственными делами», і займаўся, думаецца, апекаю над асірацелым Вінцэнтам. Для пачатку ўладкаваў яго ў Бабруйскую павятовую школу.

Не выключаецца апека над сіратою і састарэлага архіепіскапа Магілёўскага і мітрапаліта ўсіх Рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі. Вядома, што цар Павел I займеў на Сестранцэвіча нейкую няміласць, і з лістапада 1800 года архіепіскап адседжваўся ў сваіх маёнтках: то ў Буйнічах, што за шэсць вёрст ад Магілёва, то ў Маляцічах, якія ўваходзілі тады ў Чэрыкаўскі павет. Мясцоваму губернатару быў аддадзены загад: «сачыць за паводзінамі і ладам жыцця архіепіскапа». Відаць, да гэтага перыяду адзіноты і роздуму можна аднесці творчы ўзлёт Сестранцэвіча. Ён пісаў пропаведзі, трактаты па гісторыі, склаў трагедыю ў вершах, перакладаў англійскіх аўтараў.

Хочацца верыць, што стрыечны дзед Сестранцэвіча перадаў па генах свайму ўнуку Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу багата якіх сваіх прыродных якасцяў і жыццёвы вопыт. У Вінцэнта, як і ў дзеда таксама здарыўся любоўны раман у сям'і, якой служыў. Але ён быў больш рашучы і ўкраў у бацькоў сваю шаснаццацігадовую каханку Юзэфу. Як і дзед, Вінцэнт Іванавіч быў пад наглядам паліцыі, і маёнтак яго Люцінка абкладваўся штрафнымі зборамі за ўдзел

*(Працяг на стар. 12)*

колькі ў звычайнасці, агульнапашыранасці. Які ж ён, герой празаіка? Карыстаючыся яго уласным вызначэннем, «не вар'ят, не фанатык, не святы, а звычайны слабы чалавек». Не ведаю, як для каго, а для мяне гэта даволі прыстойная характарыстыка. Асабліва калі памятаць, што многія рэаліі жывога свету «застаюцца пакрыўджаныя ад людзей, а не ад прыроды. Таксама, як і людзі...» /паводле С. Дубаўца/.

Аб'ектам назірання для пісьменніка з'яўляецца замкнёная прастора чалавечай душы, яе калі-нікалі бачныя і не адчувальныя звонку зрухі. Такія змены — заканамернасць, бо сапраўднай асобе цяжка заставацца ў межах будзённага, звыклага, дзе найбольш пераважае руціннае, застылае. І тады яна, у большасці выпадкаў — ціха, праз перададоленне раба ў сабе, пачынае бунтаваць супраць любога прыгнечання, існуючага клетачнага рэжыму. Пры гэтым маленькі чалавек П. Васючэнкі не хварэе на манію велічы. Ён цвяроза ўспрымае сваю долю жамяры, разумее ўласную мізэрнасць. І ўсё ж ён непрадказальны, з той незразумелай пароды, з тых не вытлумачаных строгімі валадарамі жыцця стварэнняў, «ад чыёй прысутнасці скаланаўся ўвесь да падмурка белы мурашнік».

Яшчэ не адышоў у нябыт той час, калі нас выхоўвалі на лжывых прынцыпах выключнасці ўсяго савецкага, прымаце і перавазе грамадскага над асабістым, імкненні да недасяжных небасхілаў, няўбытных мар. Даволі працяглы перыяд літаратура ўслед за жыццём звяртала мала ўвагі на такую казюльку, як чалавек, яго светапогляд, памкненні духу. І сама сістэма жыцця, і мастацтва аднолькава паспяхова набліжалі перараджэнне і нават выраджэнне духоўнага пачатку асобы. У выніку быў ушчэнт разладжаны «той арган, што павінен граць у чалавечай душы» /«Белы мурашнік»/. Яшчэ больш прыкра: мала хто ўвогуле здагадваўся, «што ў яго ўсярэдзіне нешта павінна граць».

Здаецца, не толькі сум лірычнага героя, а і марнасць, страчанасць ідэалаў цэлага пакалення перадаюць наступныя радкі з апавядання «Аптэкаркі», якое многа губляе ад разбэрсанасці кампазіцыі і прызнаных самім аўтарам адхіленняў ад тэмы: «З нас яшчэ магло б зляпіцца штосьць людскае. Бо мы ж толькі гулялі ў маскі, а нашмат пазней улезлі па вушы ў тое, што называюць «жыццём», гэта значыць, у неабходнасць рабіць кар'еру, здабываць грошы, некага адапхнуць плечуком. Вось тады маска прырастае да душы, а новае аблічча можа аказацца гэткім страхавітым, што мы, ранейшыя, магчыма, самі б сябе не пазналі. Дык што ж гэта дзеецца, што за жудасны эксперымент ставіцца на нас і нашто?».

У значнай ступені спрыялі гэтаму такія дбайныя стражы парадку, як добра вядомыя нам па многіх бытавых і грамадскіх сітуацыях Ракавы, Свістуновы, Захаравічы, іх патроны, шматлікія прадстаўнікі спецжыцця. Ім не даспадобы разнастайнасць свету, непаўторнасць чалавека. Яны робяць усё, каб дабіцца іх аднастайнасці, пераўтварыць у статак /ці белы мурашнік, ці нейкую ўпарадкаваную іншую сістэму/. На думку гэтых персанажаў, наладжанае і добра адрэгуляванае жыццё — а правы рэгуляваць, зразумела ж, належыць ім і нікому іншаму — выглядае прыкладна так. «У ім мусібыць парадак: усюды сценкі, перагародкі, кабінкі, катушкі. У кожным катушку — чалавек, пры сваёй справе, пры пэўных думках /адпаведна пасадзе, а больш ні-ні. — **В. Ш.**/. За сцяною, таксама ўверсе й пад нагамі — нехта гэтак жа робіць карыснае /якое ад яго патрабуецца, без усякай самавольшчыны. — **В. Ш.**/. Але перагародкі не вечныя: аднойчы, мажліва, раз на ўсё жыццё адчыняцца непрыкметныя датуль дзверцы, і працаўніка запросяць у іншую, ганаровую кабінку /зразумела, калі вы будзеце паслухмяны коткай. — **В. Ш.**/. Таму трэба рабіць на сваім месцы і чакаць, калі хочаш, марыць».

Зноў чакаць, зноў марыць? Героі пісьменніка не жадаюць гэтага, як і жыць па выпрацаваных распарадчыкамі жыцця інструкцыях. І таму ствараюць свой свет, непадобны на існы, ясны і радасны, дзе зразумеюць і мокрую не ад цяпла Снягурачку, і незапатрабаванага наладчыка арганаў. Яны спяшаюцца, хай сілай фантазіі, ілюзій, хай у падземным пераходзе, наладзіць свята для сябе і іншых. Якраз так робяць Алена, пад пэндзлем якой нараджаюцца нязвыклыя выявы птушак і звяроў, чарадзейныя паштакі, светлыя абразкі, пакутуючы на рэфлексіі і бездапаможны ў жыцці Сымон, ад якога, па словах таго ж «памяркоўнага» Ракава, «карысці што ад казла малака». Хто ведае, можа, аднаго такога свята ўсеагульнага паразумення хапіла б Лёшку-ліліпуту У. Сцяпана, каб нарэшце саграцца, каб прыцішыць крушлівасць самоты, горыч суцэльнага ігнаравання? Можа, менавіта яго прагнуць героі А. Асташонка, А. Федарэнкі? На гэтым свяце ўважлівасці і спагады абавязкова было б утульна перапужанаму Канчурыку самога П. Васючэнкі, бо яго ніхто не прымушаў бы выбіраць паміж маці і жонкай, мовай і грашыма /«Канчурык робіць выбар»/; ніхто б не імкнуўся замяніць жывую і непасрэдную Кацярынку прыгожай і паслухмянай лялькай /«Тата, падаруй мне ляльку»/. Чаму? Таму што гэта свята найвышэйшай уседаравальнасці і дабрыні. А яна, кажучы словамі А. Асташонка, «тая каштоўнасць, якая перамагае ўсё: жорсткасць: скваппасць, двудушнасць, неразуменне і недавер... Дабрыня асвятляе душу, дабрыня — гэта стрыжань спрадвечны, на якім трымаецца чалавецтва, — і яна з'ядвае людзей, нягледзячы ні на што».

Я буду чакаць такога свята. Магчыма, новыя творы П. Васючэнкі, а таксама згаданых вышэй пісьменнікаў, хоць крышачку наблізяць яго прыход.

**Вольга ШЫНКАРЭНКА**

*г. Гомель*

аздабляе расповяд, надае яму займальнасць, але і адцяняе рэальнасць, плоць і водар побытавых дэталей.

Усе гісторыі, расказаныя П. Васючэнкам, умоўна дзеляцца на дзве групы. Да першай — і лепшай — належаць ужо ўспомнены «Белы мурашнік», «Канчурык робіць выбар», «Упрочкі» і «Аптэкаркі». Апошняе апавяданне прасякнута настальгічным сумам, у ім грацыю душэўных рухаў героя можна параўнаць хіба са стральцоўскім «Свет Іванавічам». Кампазіцыя тут моцна закручана вакол медыцынскага даведніка, які пад пяром аўтара праяўляе сваю паэтычную сутнасць.

Ды ёсць у зборніку шэраг апавяданняў — «Збыдлячэнне», «Лялька», «Нарадзіны», дзе аўтар не давярае руху сюжэта, дзе зашмат сацыялагізацыі: не характары паказаны, а тыя ячэйкі, якія займаюць героі ў сацыяльнай структуры грамадства. Тут існуе канкрэтная прывязка да часу. Напрыклад: «спецжыццё» з апавядання «Лялька» датуецца познім застоем. Выкрывальны пафас тут зніжае ўзровень мастацкага абагульнення, да якога аўтар падымаецца ў лепшых сваіх творах. Схема ажывець не хоча — прынамсі там, дзе пісьменнік не адчувае межаў і асаблівасцей свайго дару.

А зараз паспрабую сфармуляваць галоўнае, чыста чытацкае ўражанне ад кнігі Пятра Васючэнкі: аўтару ўдалося /не зусім зразумела — як/ перадаць самы нерв сучаснага нашага жыцця: тугу па цеплыні, дамавітасці, сумоўю. Інтуіцыя падказвае, што ўсё можа абарвацца ў адзін міг, засмактацца нейкай чорнай дзіркай, што падсцерагае ўсё жывое, вось чаму мы асабліва даражым хвілінамі спакою і цішыні, любові і блізкасці. Пра ўсё гэта сказана не «ў лоб», не напрамую, без злоўжывання «высокімі матэрыямі».

Жыццё, апісанае ў кнізе, беднае і несамавітае, ды сярод яго будзённасці нямала самай сапраўднай паэзіі. Пісьменнік умее разгледзець яе і паказаць, што таксама істотна і важна.

**Люба ТУРБІНА**

*Віншуем!*

# ТОЙ ЛЕЙТЭНАНТ МАЛАДЗЕНЬКІ...

***12 лютага спаўняецца 70 гадоў Аляксандру Капусціну — пісьменніку, былому адказнаму сакратару і намесніку галоўнага рэдактара «ЛіМа». Віншуем Аляксандра Пятровіча з юбілеем і зычым яму далейшых жыццёвых і творчых поспехаў!***



У кожнага пісьменніка ёсць творы, якія шмат гавораць і пра яго самога, і пра людзей, з якімі ён сутыкаўся, і пра тое, як адбывалася фарміраванне яго характару на жыццёвых дарогах — падчас няпростых, складаных, супярэчлівых. Нямала такіх твораў і ў Аляксандра Капусціна. Ды толькі мне, калі сустракаю яго, убеленага сівізной, але па-ранейшаму стройнага, падцягнутага /каб не ведаў, дык падумаў бы, што перад табой былы афіцэр/, прыгадваюцца яго апавяданні. Найперш тыя, што ўзнаўляюць падзеі Вялікай Айчыннай вайны — дзейнасць падпольшчыкаў, народных мсціўцаў, франтавыя будні ўчарашніх бязвусых юнакоў, якія адразу пасля вызвалення родных мясцін ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў уліліся /многія добраахвотна, не чакаючы прызыву/ у рады рэгулярнай арміі. Прыгадваюцца таму, што ў гэтых творах на першы план выходзіць уласна перажытае, выпакутаванае.

Вось, напрыклад, апавяданне «Дождж». На карысць падобнага меркавання сведчыць нават і тое, што галоўнага героя завуць Алесь. Алесь і яго сяброўка Тоня паказаны ў час чарговай баявой аперацыі. Магчыма, «баявая аперацыя» і загучна сказана, але ж гаворка ідзе пра семнаццаці-васемнаццацігадовых падлеткаў, якія ўжо неаднойчы «саліілі» фашыстам: «У той раз яны паехалі пад Хальч — невялікую лясную станцыю на перагоне Жлобін — Гомель. Зноў «сваволіць» непадалёку ад сваёй вёскі нельга было. Гэта навяло б немцаў на думку, што дыверсантаў трэба шукаць тут, у Старой Рудні. А так — можа, у Хальчы яны жывуць, можа, далей, у Калыбаўцы ці Антонаўцы... Шукай у полі ветру».

Пісьменнік паказвае ўнутраны свет маладых людзей, што з рызыкай для жыцця змагаюцца з ворагам. Адчуваецца — падобнае не прыдумаеш. І на самай справе гэта так. Барацьба з акупантамі для А. Капусціна пачалася ў 1942 годзе, калі ў чэрвені ён арганізаваў у сваёй роднай вёсцы Старая Рудня камсамольска-маладзёжную падпольную групу, а неўзабаве стаў партызанам. Пасля вызвалення Гомельшчыны яму прапанавалі працу ў рэчыцкай міліцыі. Але А. Капусцін напісаў рапарт, каб паслалі на фронт.

Былі баі на першым Украінскім фронце ў складзе 149-ай стралковай дывізіі... Была кантузія, тройчы быў паранены... І працягваліся, працягваліся франтавыя сцяжыны-дарогі, вялі за мяжу Савецкага Саюза. Увесь гэты час А. Капусцін не развітваўся з паходным сшыткам у сіняй вокладцы, куды запісваў няхітрыя паэтычныя радкі. Паэзіяй захапіўся яшчэ ў школе. А на прозу перайшоў, калі дэмабілізаваўся. У 1945 годзе быў выбраны сакратаром Жлобінскага райкома камсамола, з 1946 па 1965 год працаваў у органах юстыцыі. За гэты час завочна закончыў Мінскую юрыдычную школу, гістарычны факультэт тагачаснага Гомельскага настаўніцкага інстытута імя В. Чкалава, Вышэйшыя юрыдычныя курсы ў Маскве.

З вялікім задавальненнем еху на семінар маладых пісьменнікаў, што праходзіў у верасні 1955 года. На ім запомнілася выступленне народнага песняра Якуба Коласа, які прачытаў урывак са сваёй паэмы «На шляхах волі», а затым сфатаграфаваўся з «семінарыстамі». Здымак можна ўбачыць у адным з тамоў Збору твораў Я. Коласа ў 14 тамах. Сярод іншых, маладых тады празаікаў і паэтаў, і ён, А. Капусцін. На семінары разам з ім былі тыя, чые творы сёння добра ведаюць аматары беларускай літаратуры — Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Янка Сіпакоў, Васіль Зуёнак... А яшчэ запомніліся разгляды твораў, якія рабіў Іван Мележ. Да напісанага маладымі аўтарамі ставіўся патрабавальна, але аб'ектыўна. Гэта надавала ім упэўненасці, жадання пісаць і далей.

З падобнай упэўненасці нарадзілася і першая кніга прозы А. Капусціна «Суд ідзе» /1959/. Змест яе склалі аповесць «На крутых паваротах», а таксама шэраг апавяданняў, сюжэты якіх аўтару падказала яго судовая практыка. У наступных кнігах «Мерай закона і сумлення», «Суд вырашыў» адбывалася далейшае ўжыванне ў тэму. Калі чытаеш лепшыя з гэтых апавяданняў пад агульнай назвай «Запіскі суддзі Верасава» /свайго роду аповесць у навелах/, ловіш сябе на думцы, што перад табой не проста складаныя людскія характары, а менавіта лёсы людзей. Так, людзей, хоць пісьменнік і расказвае пра многіх з тых, хто спатыкнуўся, а то і зрабіў злачынства. Аўтар імкнецца разабрацца, а што ж рухала чалавекам у той ці іншы момант. І гэта яму ўдаецца...

Жыццё падказала новыя тэмы, але яно ж неспадзявана падставіла і падножку. Перажыванні ваенных гадоў, цяжкія раненні, кантузія не прайшлі бясследна — пачало здаваць сэрца. Спачатку не звяртаў на боль асаблівай увагі, не верылася, што ў такім узросце — і сарака няма! — хвароба зваліць. А яна, няўмольная, у канцы 1960 — пачатку 1961-га ўсё ж паклала ў ложак.

Немач хоць і не хутка, але адступіла. Прыйшло і жаданне зноў узяцца за пяро. Па-ранейшаму выкройваў хвіліны вольнага ад работы часу, ахвяроўваў і выхаднымі. Лягчэй стала, калі стаў працаваць загадчыкам аддзела «Гомельскай праўды». Лягчэй у тым сэнсе, што займаўся любімай справай, хоць часу ўсё роўна не ставала. Пісаць для душы выпадала рэдка калі і тады, калі перайшоў на працу ў рэдакцыю навукі і культуры Беларускага тэлеграфнага агенцтва.

Па сутнасці новы этап у творчасці А. Капусціна пачаўся з 1973 года, калі пачаў працаваць у «ЛіМе». Новыя кнігі А. Капусціна «Размова ў дарозе», «Скажу праўду» і іншыя засведчылі, што талент уступіў у такую пару, калі пішацца лёгка, з'яўляюцца значныя задумы і хутка знаходзяць сваё адпаведнае мастацкае вырашэнне. Прыхільна былі сустрэты чытачамі, крытыкай такія зборнікі прозы пісьменніка, як «Цвіў бэз, іграла скрыпка», «На хвалях Нявы», «Белыя гусі лета прарочаць» і іншыя. Тры кнігі нарысаў выдаў Аляксандр Пятровіч і ў сябе на радзіме — у Жлобіне.

Памятаецца, калі адзначалася 60-годдзе А. Капусціна, яго сябра, знакаміты Аляксей Пысін, прысвяціў юбіляру верш, які быў апублікаваны ў жлобінскай раённай газеце. Твор варты таго, каб прывесці яго цалкам:

**Сцяжынкі лясныя стаптаны да дзір,**
**Сышлі ўжо грузды і апенькі.**
**Сустрэча з дубамі:**
**— Вунь дзед-брыгадзір,**
**А той —**
**лейтэнант маладзенькі.**
**Яшчэ ты кагосьці ўявіў і спазнаў**
**У дрэве з густымі брывамі.**
**Дняпроўская пушча з траншэй і канаў**
**Паўстала**
**братамі,**
**сябрамі.**
**Узнялася з трывожных узвеяных сноў,**
**Пад небам калыша балады.**
**Праходзім нябачна світаннямі зноў**
**Праз маршы,**
**атакі,**
**блакады...**
**Зазімкам сняжынка ўпала на след,**
**Цікуе вавёрачка з елкі...**
**Атлантамі ў неба —**
**задумлівы дзед,**
**І ты, — лейтэнант маладзенькі.**

Кладуцца на паперу старонкі будучых апавяданняў, аповесцяў... Вычытваецца карэктура кнігі выбраных твораў, якая выходзіць у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Нараджаюцца краязнаўчыя нарысы пра знакамітых людзей, дарога ў жыццё якіх пачалася на Жлобіншчыне.

Кладуцца на паперу новыя радкі пра новае жыццё, пра новы час, пра будучыню Радзімы, пра суверэнную Беларусь.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Паэзія

Алесь ЗВОНАК



# ЖЫЛІ НА СВЕЦЕ НЕЗДАРМА

## БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Па тэліку сачу, як хвалі слоаблудства
Захлістваюць ахвяр блакітнага экрана,
Як пустазелле слоў дае усходы густа,
Як шчодра сыплюць соль лухты
на нашы раны!..

Вось нейкі «лібэрал» раве на ўсю краіну,
Што ў рукі ўзяць гатоў
дзяржаўную абузу,
Што выведзе народ на тую каляіну,
Дзе запануе лад найноўшых Сіракузаў!*

І хоць у адрас наш ён цяўкае здалёку,
Губерняю сваёй назваў нас урачыста,
І хоць у паддаўкі гуляць мы ўмеем лоўка,—
Ёсць у руках мятла, каб двор
падмесці чыста,
Тым больш што вопыт ёсць
даваць пад зад фашыстам...

Крутну на свой канал — і тут
траскучы «форум»,
Гадоўлі ўласнай тут бушуюць цыцэроны;
І свой клікуша ёсць, што дасць
любому фору,
Дарвацца б напралом хутчэй
да мікрафону.

Усіх і ўсё такі прамоўца можа збэсціць,
Вароты ўсім гатоў абпэцкаць каланіцай,
Да крызу ці інфаркту можа вас давесці,
Да хуткай дапамогі, ложку у бальніцы...

Узяўшы напракат і лексікон і мову —
Аб'едкі са стала старэйшага сабрата,
Плюе радзіме ў твар паклёпу
брудным словам,
Хоць ведае: чыжу не быць
арлом крылатым!

Такі змахлярыць рад любую падтасоўку,
Дзе ісціны зярнятка й блізка не начуе,
Скажу такому словам класіка: салоўка,
Стук капытоў тваіх я вельмі добра чую!

А хор, што кліча зноў у рай камуністычны,
Абрыдлы як калісь уцёсаўскія песні?!
З бязладдзем тым хоць май ты голас самы зычны,
Не справіцца ніхто, хоць лопні ты, хоць трэсні!

Спытаць хачу: няўжо не збляк
той колер мары,
Што так квяціста ўдоўж
і ўшыркі быў разросся?!
Не, кажуць, тых ружовых акуляраў
Ужо даўно не носім мы на пераноссі!

Быць можа, мне ў маім
павелічальным шкельцы
Усё ў святле скажоным бачыцца занадта?
Не, як відаць, даўно нам
свой патрэбен Ельцын,
Хоць пажадана ўсё ж
без музыкі гарматнай...

[illegible] ж ачмурэлі ўшчэнт
ад тых «альтэрнатываў»,
«Кансенсусаў», «стагнацый»,
а найбольш інфляцый;
А ўжо на падыходзе й «ваўчар»
чэша грыву,
Ды і рубель вось-вось прышчэміць
нешта «зайцу»!

Піліпаўка. Штоноч спраўляюць
цэны гульбы.
Скажыце, хто падклаў пад зад
нам тую міну,
Што даражэй за хлеб надзённы
стала бульба?
І гэта у спрадвеку бульбяной краіне?!

Што ж думае народ?
Народ маўчыць сурова,
Паглядвае на ігрышча тое нетаропка...
А прыйдзе час — ён цвёрда
скажа сваё слова,
Паставіўшы на ўсім, і канчаткова, кропку!

*1993*

* *Сіракузы — старажытны горад-дзяржава, дзе яшчэ задоўга да нашай эры існавала рабаўласніцкая дэмакратыя.*

## ЗОЛАТА

Мы золата мылі ў даліне ракі,
Мы тачкі ганялі на бункер.
А дзень быў пахмурны і золкі такі,
А сопкі — ў зялёных карунках...

А воддаль за насыпам два трактары
На два галасы ракаталі
Ды зрэдку ўрываліся залпы ў той рытм
І тут жа на момант змаўкалі...

Там мірная праца ішла цэлы дзень,
Хоць быў ён дажджысты і шэры —
Расстрэльвалі там дзелавіта людзей,
Загнаўшы сілком у траншэю...

Мне вочы крывавы туман засцілаў,
Калі назіраў з эстакады,
Як зладжана, спорна «работу» вяла
Забойцаў-умельцаў брыгада.

Таму ўхаластую й гулі трактары,
Каб голас іх чуўся здалёку,
Каб енк прадсмяротны і роспачны крык
Глушыў іх размераны рокат...

Крычы ва ўсё горла, зглыне ўсё тайга,
Хоць век свой такога не чула,
І сдалася ўсхліпам апошнім туга,
І кладіся людзі пад кулі...

Не людзі, а зэкі, а лагерны пыл,
Гулаг каго начыста спляжыў,
Аддаўшы хто рэштку апошнія сіл,
Віноўнікам стаў сабатажу...

Будзь тройчы праклятьі
той дзень і той час!
Мне сэрца нянавісць спаліла,
Калі замільгала раптоўна ў вачах
Забойцы агідная рыла.

Ён побач са мною, адкормлены кат,
Твар скрыўлены брыдкай грымасай:
— Бягом! — і брахучы пасыпаўся мат.—
Начальнік заве, вертухайся!

Пад дулам бягу, як запалены конь,
Насустрач ганебнаму скону,
Дзе права расправы — і суд і закон,
Бясправўе пад маскай закону.

І вось ён, той фабрыкі смерці прараб,
Крывёю налітыя вочы:
— Ты што там рабіў?
— Гнаў пяскі на гара.

Дзесятнік брыгады рабочай...

А што ты наверсе рабіў? Падглядаў?
Адказвай, шпіёнская контра!
— Нічога не бачыў, з падачай бяда —
Займаўся бягучым рамонтам...

Падумаў.
— Ідзі! Чорт з табою, жыві!
Такіх без цябе пад завязку!
...Слязінка адчаю скацілася ў жвір,
А з ёю і быль, а не казка!

P. S.
Дзень скончыўся. Плён залаты мы знялі
З бутары нямнога-нямала.
Пад стогны глухія з-пад рыхлай зямлі
Бульдозеры насып раўнялі.

*1993*

## ДУША

Было юнацтва, кроў кіпела,
Калі да вываду дайшоў,
Што, не валодаючы целам,
Не авалодаеш душой.

Так ды не так. Было каханне,
Была адзіная адной.
Душа ж яе была схавана
Пад пустаслоўнаю маной.

Было каханне ў ліхалецце
Такім іспытам, поўным мук,
Што дзе там кволай той Джульеце,
Рамеа беднаму таму!

Калі ж пагроза мёртвай хваткай
Спыніць хацела дзён працяг,
Душа хавалася у пяткі,
Зірнуўшы ў вочы небыццця.

Была й атрута расставання,
Калі рабіў нясмелы крок
У спёку палкага кахання
Расчаравання халадок.

Што ні кажы, душа не лыка —
Не лезе ў прыказкі радок.
Яна імкнецца ў свет вялікі,
У свет хімер зямной хадой.

Калі ж прыгне лухта людская
Хлуснёй, паклёпам, брудам зла,
Яна і ўпоцемку блукае —
Шукае выйсця да святла.

І хоць абое састарэлі,
Аціх крыві ўтрапёнай шал,
Развітвацца не хоча з целам
Трывогі поўная душа!

*1993*

## БЕЛЫ ДОМ

Белы дом. Чатыры вежы па вуглах.
З іх адна мая, але аб гэтым потым...
Тут сатрап Курлоў наводзіў страх і жах,
Тут павесіў кат студэнта на варотах.

Белы дом. Чатыры вежы па вуглах.
Ці то замак, ці палац сярэднявечча,
Ці то ўвасабленне нелюдства і зла,—
Усё адно — юдоль пакут нечалавечых.

Ганарымся — ёсць і ў нас свой Белы Дом.
Адным словам, свет фарсісты,
ведай нашых!
Толькі дом той повен роспачу й бядой,
Духам тлену і смуродлівай парашы.

На узвышшы, над Нямігаю-ракой
Ад вачэй сцяной схаваўшы казематы,
Браў за горла лютай катаўскай рукой
Перад Богам і людзьмі невінаватых.

Люд зладзейскі тут свой тэрмін каратаў.
Тут Гарун і Колас праклінаді краты.
Што ж?! Абапал сына божага — Хрыста
На крыжах былі й разбойнікі распяты...

Госцем левай вежы доўга быў і я.
Біўся галавой аб сценкі адзіночкі;
У мяшку каменным я стаўма стаяў,
Ачмурэлы, біты блытаў дні і ночы.

Па сакрэту: ў тыя страшныя часы
Мелася ў турме шыкоўная катоўня:
Дываны глушылі енкі-галасы,
Коркавыя сцены праглыналі стогны...

З камеры смяротнай тут паэт Дзяркач
Памахаў рукою нам перад расстрэлам;
Тут, дзе боль, пакуты і надрыўны плач,
Толькі еднасць духу сэрцы нашы грэла.

Быў і глух і нем, засеўшы у Крамлі,
Той разбойнай хеўры атаман вусаты,
Калі цвет і гонар змучанай зямлі,
Павязаўшы дротам, везлі ў Курапаты.

Ён стаіць і сёння як часін праклён,
Дом пакут пякельных,
дом разбітых сэрцаў!
А ці не пара яму на злом ці скон,
Ці перайменавацца у Музей —
Дом Смерці?!

*1993*

## МОЙ САД

Я сад вырошчваў дваццаць пяць гадоў,
Я дрэўцу кожнаму
быў сябрам-панібратам,
Піў чэрвеньскіх туманаў сырадой
І посташ стваліна тонкіх кратаў.

Расінка-кропля кожная была
Цудоўным дарам ад Пазнання Дрэва,
Дабра жывінкай, а не ядам Зла,
Слязінкай чыстай Непарочнай Дзевы,

Чый вобраз, увасоблены у плоць,
Жыве, як памяць сэрца, і дагэтуль.
Я ж прагу помсты, крыўду, боль і злосць
Зміняю на долю прыкрую паэта.

Цяпер збіраю райскія плады,
Каб мог адорваць тых, хто іх не мае.
Хай д'ябал-змей спакусы і брыды —
Хапае душы тых, хто гнаны з рая.

Я богаборству болей не служу,
Хоць дух нявер'я спадцішка цікуе.
Адно скажу — не перайду мяжу,
Дзе з царствам божым д'ябдава мяжуе.

Мой сад жыве. А разам з ім і я.
Хоць пад карой кладзецца круг чарговы,
І доля ў нас у кожнага свая,—
Фінал адзін. І ён зусім не новы.

*1993*

## БІБЛЕЙСКАЕ

Немагчыма вярблюду пралезці
праз вушка іголкі,
Як гаворыцца ў бібліі
моваю далёкіх вякоў.
Ах, святая наіўнасць! Вярблюд
той дурны не настолькі,
Каб з гарбом сваім лезці ў шчыліну
пасткі такой!

Даўгалыгаму плесціся лепш
між пясчаных барханаў,
Як нядаўна і мне па апрыкралай
тундры ў снягах
Пад астуджаным небам,
пад бляскам Паўночнага Зззяння
З алавянаю стомай
ад доўгай хады у нагах.

Свет мой звужаны быў
шмат вузей за біблейскае вушка,
Свет магчымасцей вязня
ламанага граша танней,
Дзе за слова нязгоды стралок
цябе возьме на мушку;
Толькі куля яго аніяк
не трапляла ў мяне...

Белы д'ябал пургі на арэлях вятроў
мяне гушкаў,
Статкі белых аблокаў на захад —
радзіму плылі...
Абмінуў я усё ж ткі біблейскае
вузкае вушка
І дасяг сваёй роднай, бясконца
любімай зямлі!

Ёй глыбокі паклон, той зямлі,
што мяне нарадзіла,
Што цярплівасць і мужнасць
народа майго мне дала.
Я надзею хаваю ў душы, што ягоная сіла
Адшчапенцаў пагардай зміяе,
як нашэсце змяла!

*1993*

## НАКДАЎН

Не загадаеш сэрцу: бінца годзе!
Руцэ не скажаш: не бяры пяра!
Халоднае развагі ціхаводдзем
Прыйшла маларухомая пара.

Цяжар былых пакут сутуліць плечы,
Змрок беспрасвецця засцілае зрок,
Кастлявы прывід скрушнае галечы
Ужо паблізу, ужо непадалёк.

Паціху моўкнуць барды індустрыі,
Прагрэс агхлоблі павярнуў назад,
Здань камунізму адвярнула выю,
Нам на пагляд адкрыўшы голы зад.

Які груган на нас бяду наклікаў?!
З якой нары сіпіць зміяны сык?!
Учора мне па выраку сінкліта
Аблатку наляпілі на язык!*

Так. Век суровы жорстка нас габлюе,**
Зміяне порстка звычкі, густ і смак.
Так міла ўбачыць на экране, як
Руку экзарху бальшавік цалуе...

А так шкада нязбытных спадзяванняў
На стыкаванні блізкім двух вякоў,
Калі давер душы абрабаваны,
А светлы міф асуджаны на скон!

Шкада, калі шчыгрынавая скура
Твайго быцця звужаецца штодзень,
Калі падзей асляплая віхура
Да краху лад скалечаны вядзе!

Шкада сысці ў нябыт расчараваным,
Згубіўшы веру ў ідэал святы,
Цана якому — дваццаць год выгнання,
Гібення ў нетрах вечнай мерзлаты!..

Але агонь любові ў кожнай клетцы
Жыве і жыць яму не перастаць,
Перад якім не грэх аддана ўкленчыць,
Як вернік перад вобразам Хрыста!

*I-XI-1993*

* *Учора 30.XI.93 беларускі парламент прагаласаваў супроць статуса беларускай мовы, як дзяржаўнай мовы рэспублікі, чым і пасдаў мяне ў накдаўн.*
** *У даўнія часы ў бальшавіцкім лексіконе гэта называлася «здымаць стружку».*

Проза

# ДВА АПАВЯДАННІ

Іван НАВУМЕНКА



## ПАРАСКА

Успаміны пра далёкае юнацтва: салодкія, прыемна-шчымлівыя, часам горкія...

Крываногі, яшчэ даваенны паштальён Якімчык прынёс позву: з'явіцца ў ваенкамат паслязаўтра. З двухдзённым запасам харчу, кружкай, лыжкай...

Ясна: мабілізацыя.

Цімох Стрыж, пляменнік Якімчыка і мой сябар, які пайшоў у армію яшчэ ў пачатку вайны, пасля вызвалення мястэчка пісьма не прыслаў. І ніякай весткі пра сябе не падаў ягоны бацька, зяць Якімчыка. Значыць, загінулі. Або пакутуюць у палоне. Як абыходзяцца немцы з палоннымі, мястэчка ведае.

Якімчык аддае маёй маці позву, сам распісваецца за яе і, нічога не сказаўшы, выдыбае з хаты.

Значыць, у мяне толькі адзін вольны дзень. Заўтрашні. Рэчавы мяшок, у які я паклаў брытву, кавалачак мыла, трохі хлеба, сала, сухароў, спакаваны.

Ёсць большы клопат: мне васемнаццаць гадоў, я іду на фронт, і трэба мець дзяўчыну, пра якую б я думаў, пісаў ёй лісты, а яна б мне адказвала.

Адна такая дзяўчына ёсць. Але я не веру ёй. Учора я бачыў яе ў кампаніі двух маладых лейтэнантаў. Яна весела з імі шчабятала, залівіста смяялася і, убачыўшы мяне, толькі памахала рукой. Не, гэткая пісаць мне лісты не будзе. У мястэчку для яе хопіць лейтэнантаў.

І тут я ўспомніў пра Параску. Я вучыўся з ёй у дзевятым класе, праўда, мала, толькі апошнюю чвэрць. Але я ведаў яе. Ладненькая, паўнаватая, з густа засеяным вяснушкамі тварам, яна кожны дзень шыбавала міма нашай хаты ў школу. Жыла Параска ў Дуброве, вёсцы, размешчанай ад мястэчка за восем вёрст. Можа, яна кватаравала ў каго, а, можа, і не мела кватэры і мерала маладымі нагамі доўгія кіламетры. Гэтага я дакладна не ведаў.

Бліжэй я пазнаёміўся з Параскай перад вызваленнем мястэчка. Фронт стаяў на Дняпры і кожны дзень да слыху даносіліся гарматныя выбухі. Я прагна чакаў вяртання нашых, і гэтыя выбухі былі для мяне як радасная музыка. Я зусім не думаў пра тое, што Беларусь толькі пачала вызваляцца, што нават пасля яе вызвалення вайна не скончыцца і што мне прыйдзецца ваяваць на фронце. Абы вярнуліся нашы!

Наш партызанскі атрад стаяў у суседняй з Дубровай вёсцы, лясной, балотнай. Была восень сорак трэцяга года, ва ўрачыстай пазалоце стаялі дубы, цэлая града якіх ахінала вёску. У вячэрнія часы над дубамі гудзелі савецкія самалёты. Нямецкіх не было чуваць. Як было не радавацца маладому сэрцу, калі ўвачавідкі здзяйсняліся самыя лепшыя яго надзеі. Праз які-небудзь месяц немцаў выганяць, і зноў можна будзе жыць вольным чалавекам, гаспадаром хадзіць па сваёй зямлі, не адчуваючы абразы і знявагі.

З мястэчка ў атрадзе было некалькі хлопцаў, і разы два на тыдзень то з адным, то з другім я хадзіў на сустрэчу з падпольшчыкамі, нашымі сябрамі, якія даставалі для партызан ўсё, што маглі дастаць. Найперш соль і медыкаменты.

Я вяртаўся назад з тым разлікам, каб заначаваць у Парасчынай хаце. За два гады, якія я не бачыў дзяўчыну, яна пасталела, расцвіла прывабнай жаноцкасцю і нават засеяны вяснушкамі прадаўгаваты тварык папрыгажэў і як бы выпраменьваў нейкую мяккую прыцягальную сілу.

Парасчынай маці я заўсёды адсыпаў трохі солі.

Мне здавалася, што я падабаюся і Парасцы. Ноччу, калі я клаўся на доўгай лаве, якая цягнулася ўздоўж сцяны, а яна на драўляны скрыпучы ложак, мы доўга не маглі заснуць. Варочаліся, уздыхалі. Іншы раз у вакно зазіраў месяц-поўня і тады я бачыў, што, лежачы на спіне, Параска аб нечым думае. Пра каго яна думае? Можа, пра мяне? Мне было радасна і трывожна...

У сваіх летуценнях, як я цяпер разумею, не хацеў заўважаць нават тое, чаго не заўважыць было проста нельга. Параска пазбягала застацца са мной адзін на адзін, пагаварыць, што-небудзь спытаць. Яе, відаць, мала абыходзіла, што я быў добрым вучнем у школе, друкаваў у раённай газеце вершы, а цяпер вось прабіўся ў партызаны. Усё гэта як бы не мела для Парaскі ніякага значэння.

Парасчына маці паводзіла сябе зусім інакш. Яна дагаджала мне, як магла. Ніколі не выпускала з хаты, не саскварыўшы яечню, не наліўшы кубак малака. Відаць, гэта і звяло мяне ў зман.

Раніцай свайго апошняга вольнага дня я пачаў збірацца ў Дуброву.

— Васіль прасіў, каб ты пабыў дома, — сказала маці. — Хоча развітацца. Іх сёння пагоняць на фронт.

Я на хвіліну завагаўся. Васіль — матчын пляменнік. Два гады назад, у гэтым самым снежні месяцы, ён, вырваўшыся з палону ў далёкім Днепрапятроўску, прайшоўшы сотні неймаверна цяжкіх вёрст, сядзеў на прыпечку і, прыхінуўшыся спіной да печы, еў бульбу з кіслым малаком. Ён радаваўся, што застаўся жывы і такі здолеў дадыбаць да родных мясцін.

Вярнуўшыся ў сваю вёску, Васіль жыў, як усе. Узяў дзялянку зямлі, араў, касіў.

Іншы раз ён завітваў у мястэчка і нават начаваў у нас. Але размоў пра фронт, пра палітыку ніколі не заводзіў.

А цяпер вось ён хацеў са мной пагаварыць і развітацца.

Я, аднак, нават думкі не мог дапусціць, што не пабачуся з Параскай. Мне здавалася, што яна мяне чакае. Я хацеў знайсці і сказаць ёй нейкія асаблівыя словы, папрасіць, каб пісала мне лісты. Карацей, я пайшоў у Дуброву. Снежань ляжыць шэры, нецікавы. Наўзбоч дарогі цёмны лазняк, алешнік. У выпетраным балотным бадыллі свішча вецер. Раз-пораз чуюцца выбухі. Фронт адышоўся недалёка. Яго лінія пралягае па балотах, па якіх нядаўна шасталі мы, партызаны.

Да Дубровы кіламетраў восем. Маючы на ўвазе пабачыцца з Параскай і вярнуцца ў мястэчка, каб развітацца з Васілём, я прыбег у вёску хутка. За якую-небудзь гадзіну.

Параску застаю ў хаце адну.

— Заўтра іду на фронт, — паведамляю ёй з парога.

Яна недаўменна на мяне пазірае.

— Нашы хлопцы пайшлі тыдзень назад.

Мне робіцца няёмка. Хіба гэтыя хлопцы, а не я, з крыўдай думаю, вучыліся разам з табой у школе, рызыкуючы жыццём завітвалі ў Дуброву, якая партызанамі не ахоўвалася, начавалі ў тваёй хаце?

У няпэўнай, мізэрнай гаворцы ідзе час. Я проста не ведаю, як з Параскай развітацца.

Нарэшце я саджуся побач з ёю на лаву, абдымаю, прыхінаю да сябе. Параска, адвярнуўшы твар, пачынае хіхікаць. Зняважаны, я ад яе адсоўваюся.

У гэты час бачу ў акне калону мабілізаваных. Наперадзе паважна, як бусел, выдыбае Васіль.

Каб не абраза, сорам, замяшанне, я б, відаць, выскачыў з Парасчынай хаты, дагнаў Васіля, кіламетр ці два прайшоў бы з ім побач, пагаварыў. Але якраз вярнулася ў хату Парасчына маці, усчала гаворку, нават пачала завіхацца, каб пачаставаць мяне.

Ад пачастунку я рашуча адмовіўся.

Ужо на фронце я даведаўся, што Васіль загінуў у першым баі. На тым праклятым балоце, па якім поўзалі і мы, партызаны. Яму адарвала сківіцу і паміраў ён цяжка, пакутліва. Даруй мне, Васіль...

Я даведаўся таксама, што Параску па рабочай мабілізацыі накіравалі аднаўляць Данбас. Дзіва дзіўнае: з мястэчка на такія работы бралі толькі дзяўчат з падмочанай рэпутацыяй: тых, якія гулялі з немцамі ці паліцаямі. А ў Дуброве нават паліцыі не было.

Маладое сэрца абразы не даруе. Пасля вайны я многа разоў бываў у Дуброве і ні разу не пацікавіўся лёсам Парaскі. Я не тое што помсціў ёй, насіў у сэрцы на яе крыўду. Я проста не думаў пра яе, ніколі яе не ўспомніў. Яе вобраз знік з душы, як знікае, набягаючы адна на другую, хваля на вадзе быстрацечнай рэчкі.

## БЛАСЛАВЕННЕ БУЛЬБЕ

Я доўга шукаю дот, блукаю па густым, парослым верасам хвойніку і нарэшце знаходжу. У абымшэлым, напаўразбураным доце адзін вугал зусім развалiўся, з жалезабетону тырчаць стальныя пруты арматуры — яны нагадваюць зубы нейкага нябачнага страшыдла.

Дот некалі стаяў у голым полі, меў абсяг прастрэлу: тут за два ці тры дзесяткі кіламетраў ад Мінска праходзіла мяжа з Польшчай. Граніца пазней хоць і адсунулася пад Брэст, Беласток, але доты ў апошнюю вайну яшчэ ваявалі. Ад мясцовых жыхароў я чуў апавяданні, як мужна змагаліся супраць фашыстаў чырвонаармейцы, што ў апошні момант занялі гэтыя доты.

Адгрымела вайна, ляцелі гады і з часам на полі вырас лес, у якім цяпер хаваюцца доты.

У гэты лес я вырываўся з горада, калі быў яшчэ намнога маладзейшы. Так здарылася, што непадалёку ад дота мне выдзелілі садова-агародны ўчастак. Я пабудаваў на ім дамок, пасадзіў дрэвы, вырошчваю бульбу. І, вядома, шастаю па пералесках.

Я і цяпер выбраўся да дота, бо паблізу яго ёсць паляна, на якой вясной растуць смаржкі. Лес нішчыцца, засмечваецца. У ім бясконцыя чорныя плямы ад вогнішчаў, пустыя бутэлькі, бляшанкі, іншы друз. Дзе тут тым смаржкам вырасці.

Гэткія сляды пакідаюць пасля сябе гараджане, якія прыязджаюць у лес адпачыць. Раскладваюць агонь, п'юць гарэлку, смажаць сала. Пасля іх, як кажуць, хоць трава не расці.

На знаёмай паляне я нічога не знаходжу. Яна вытаптана, збэрсана, на кожным кроку чорныя галавешкі, вугалле, попел ад вогнішчаў. Я ў душы праклінаю гараджан. Няўжо не разумеюць, што падсякаюць сук, на якім сядзяць? Знявечаная, спустошаная зямля адплаціць за здзек, які ўчыняецца над ёй.

Злосны, з пустым кошыкам я выходжу на дарогу. І бачу малюнак, якога не бачыў за доўгія гады вандровак па тутэйшых мясцінах. На абсягу вялікага з пракладзенымі канавамі балота, на якім раней толькі асака ды розныя дудкі раслі, капошацца дзесяткі гараджан. Мільгаюць белыя, сінія, чырвоныя касынкі, сарочкі, майкі, трусы. Працуюць мужчыны, жанчыны, дзяды, падлеткі, рагатлівыя дзяўчаты. Сонца вісіць яшчэ досыць гарачае, хоць ідзе на схіл. Людзі, якія капаюць, перакопваюць балотны дол, лішнія вопраткі скінулі, і якіх толькі не пабачыш фігур. Нібы на пляжы каля цёплага мора.

Міжволі я ўспамінаю далёкі і зусім другі час. Штосьці падобнае да таго, што бачу цяпер, я ўжо перажыў...

Першую акупацыйную зіму наша сям'я проста галадала. У нас быў невялікі запас солі, карасіну, і мы мянялі гэта на бульбу. Добра памятаю: раніцай бульба з гуркамі, на абед бульбяная тоўчанка, запраўленая льняным семем, вечарам бульба ў мундзірах, якую мы торкалі ў соль і елі...

Соль, карасін нарэшце скончыліся. А яшчэ быў толькі канец снежня.

Як будзем жыць далей, я не ведаў. Бо і вопраткі, крамніны не было, каб мяняць на харч. Бацька быў на фронце і ратавала сям'ю /маці, трох сыноў, дачку/ бадай толькі адна карова. Яна добра даілася.

Пад новы год здарылася незвычайнае. Вечарам да нас, гучна пастукаўшы ў дзверы, зайшоў высокі, страшэнна змізарнелы чалавек, апрануты ў дзіравыя транты. З цяжкасцю мы пазналі ў ім матчынага стрыечнага брата Карнея, або Карнюша, як мы яго называлі.

Карней быў на фронце, і пад Кіраваградам трапіў у палон. З лагера ён неяк вырваўся, і вось два ці нават тры месяцы брыў па Украіне, каб дабрацца да роднай хаты, якая размешчана ў недалёкай ад мястэчка вёсцы, адкуль родам і мая маці.

Карнюша, як маглі, пакармілі і, разаслаўшы на падлозе саломы, паклалі спаць. У тых жа вашывых трантах, у якіх прыйшоў. Новай вопраткі даць яму не маглі.

Памятаю: Карнюш сядзеў на табурэце і, прыхінуўшыся да печы, грэў спіну, а я яму расказваў пра падзеі на фронце. Немцаў нібыта ад Масквы пагналі, і глухія чуткі пра гэта блукалі па мястэчку. Карнюш слухаў і нічога не гаварыў. Ён яшчэ не вырваўся з палону сваёй доўгай пакутлівай дарогі, на якой, відаць, было нямала цяжкіх прыгод і нягод.

Назаўтра Карнюш пайшоў. А тыдні праз тры, пад стары новы год у наш двор заехаў запрэжаны ладным конікам воз і падужэлы, расчырванелы ад марозу Карнюш унёс у хату на сваіх шырокіх плячах паўмяшка мукі.

Тут варта падрабязней расказаць пра Карнюша. Ён нарадзіўся ў Пецярбурзе, бо ягоны бацька на той час быў дэпутатам апошняй чацвёртай Думы. А выбралі ў дэпутаты ягонага бацьку, трохі пісьменнага селяніна за тое, што вельмі добра праявіў сябе на пасадзе валаснога старшыні. Умеў абыходзіцца з людзьмі. Тры новыя школы пабудаваў у воласці. Ахайныя будынкі дзвюх невялікіх пачатковых школ з высокім ганкам і бляшаным дахам і цяпер яшчэ стаяць у мястэчку.

Пасля рэвалюцыі дэпутацтва Карнюшовага бацькі скончылася. Ён вярнуўся ў родную вёску. Сялянскай навукі не забыў: араў, сеяў, касіў, як усе. Падчас белапольскай акупацыі, калі жаўнеры бязлітасна рабавалі вёску, заступіўся за аднаго беднага селяніна. Рабаўнікі гэтага яму не даравалі: страшэнна збілі прыкладамі, і ён у хуткім часе памёр.

Карнюш з сястрой і старэйшым братам раслі сіротамі. У час нэпа бацькавы браты рашылі збудаваць паравы млын. Ведаючы, што ва ўдавы дэпутата водзяцца залатыя дзесяткі царскай чаканкі, запрасілі ў хаўрус яе старэйшага сына.

Млын пыхкаў дымам з высокай жалезнай трубы, пакуль не пачалася калектывізацыя. Дзядзькі і старэйшы брат з'ехалі з вёскі падалей ад граху, а непаўналетняга Карнюша з'едлівыя сельсаветчыкі не кранулі.

Немцы таксама не аддалі млын былым гаспадарам. Яны толькі прызначылі іх млынарамі. Адным з млынароў стаў Карнюш.

Толькі дзякуючы матчынаму стрыечнаму брату мы перажылі тую цяжкую зіму. Карнюш ніколі не мінаў нашага дома, калі прыязджаў у мястэчка. То паўмяшка мукі падкіне, то трохі круп, то хоць якога-небудзь субару. Я так і не паспеў аддзячыць яму: пайшоўшы другі раз на фронт, Карнюш загінуў.

Трэба было бачыць мястэчка першай ваеннай вясной! На немцаў ніхто не спадзяваўся. Яны ў абрэз давалі хлеба нават тым, хто хадзіў на службу: паўкілаграма работніку і ні грама на дзяцей, жонку. Таму стары і малы кінуўся на поле. Хто, прывучыўшы карову, араў загон, але большасць месцачкоўцаў капалі зямлю рыдлёўкамі. Як вось цяпер мінчане на балоце. Ад раніцы да вечара не сціхала на полі гамонка. Пад рыдлёўку садзілі бульбу, сеялі яравое жыта, ячмень, проса. Ніводнага вольнага кавалка поля не засталося. Хоць не тое што трактара — нават коней не было ў мястэчку.

Я капаў уздзірванелы кавалак зямлі на адведзеным нам пясчаным кургане, які ўзвышаўся сярод балота. Я, здаецца, быў прывучаны да работы: да вайны на канікулах працаваў у рамонтнай брыгадзе. Але хіба можна параўнаць падбіўку баласту пад шпалы з капаннем уздзірванелага долу, які ніколі не бачыў плуга, зарос здзічэлай травой, карэнні якой нібы скручаны дрот спляліся ў тугія жмуты і вузлы. Кожную жменьку зямлі трэба было размяць, расцерці ў руках, а карэнне, траву знесці на край поля.

Я цэлы тыдзень ваяваў з дзірваном, але не адолеў яшчэ і палавіны зусім невялікай дзялянкі. На руках былі суцэльныя мазалі, яны палопаліся, і рукі нясцерпна балелі. Тым часам я працягваў капаць, расціраць пераплеценыя карэннем травы камякі зямлі, радуючыся кожнай ускапанай цалі.

Курган я ўсё-такі ўскапаў. На ім пасеялі проса. Яно добра ўзышло, потым закусцілася, закаласілася. Я хадзіў на курган глядзець, як яно расце. Я нават некалькі пудзілаў паставіў, каб не клявалі зерне вераб'і. Ва мне нібы прачнуўся хлебароб, гаспадар, які любаваўся вынікам уласнай працы. Гэтае пачуццё прыйшло і цяпер, калі я гаспадару на сваіх невялікіх сотках. Смачны хлеб, вырашчаны ўласнымі рукамі.

Таму я шчыра спачуваю гараджанам. Няхай садзяць бульбу. Каб толькі лета было не дажджлівае, і яна не вымакла на гэтай нізкай, якая яшчэ нічога добрага не радзіла, балацянцы.

Музыка

***Як мы паведамлялі ўжо, на галоўнай канцэртнай сцэне Беларусі, у Вялікай зале філармоніі, адбылася прэзентацыя новага творчага калектыву — аркестра народных інструментаў «Менск». Канцэрты такога кшталту ў наш час — падзея неардынарная, а сам калектыў — з'ява ўвогуле новая. Бо гэта не проста аркестр, дзе сабраліся творчыя людзі — аднадумцы, а творчае аб'яднанне «Аркестр «Менск», мэты і задачы якога разнастайныя і шматпланавыя. Пра ўсё гэта раскажуць яго «бацькі-заснавальнікі», мастацкі кіраўнік і дырыжор Генадзь Новікаў ды прэзідэнт творчага аб'яднання Радзіён Глебаў. Але спачатку пра сам канцэрт...***

# «ПІШЫЦЕ ДЛЯ НАС!»

Праграма ў 2-х аддзяленнях уяўляла сабою маляўнічы вянок з цудоўных твораў беларускай музыкі, дзе такія вядомыя п'есы, як «Лявоніха» і «Беларускія сувеніры» Я. Глебава, вальс Ніны з музыкі да драмы Лермантава «Маскарад» А. Багатырова суседнічалі з канцэрціна «Народныя гульні» А. Мдзівані, гумарэскай «Вясковыя музыкі» В. Помазава, вальсам з оперы «Дзікае паляванне караля Стаха» У. Солтана. Аркестр выканаў і дзве часткі з «Італьянскай сімфоніі» С. Василенкі, «Французскую польку» І. Штрауса, галоп з сюіты «Праменад» В. Бібергана, на «біс» гучаў віртуозны «Палёт чмяля» М. Рымскага-Корсакава... Разнастайная праграма дазволіла Г. Новікаву, які, натуральна, быў цэнтральнай фігурай гэтага канцэрта, прадэманстраваць і тонкі густ, і шырокую гукавую, тэмбравую і дынамічную палітру народнага аркестра, і яго багатыя рэсурсы. Аркестр паказаў сябе чуйным акампаніятарам у цудоўнай лірычнай песні Ю. Семянякі «Явар і каліна» /салісткі Ніна Шарубіна ды Ірына Грынюк/ і ў рускіх песнях «Выйду я на вуліцу» і «Вячэрні звон», якія выдатна выканаў саліст ДАВТа Аляксандр Кеда. Сяргей Герасімаў праспяваў дзве песні маладога кампазітара Д. Даўгалёва, які з'яўляецца і адным з асноўных удзельнікаў аркестра /грае на сінтэзатары/, — «Спатканне» /сл. У. Пецюкевіча/ і «Песня п'янага» /сл. Я. Коласа/. Іх вельмі цёпла прыняла публіка.

На канцэрце была сапраўды святочная атмасфера, якой нямала спрыялі элементы тэатралізацыі, «ігравое суправаджэнне» ў некаторых творах. Сапраўднай падзеяй, на мой погляд, сталася выкананне «Вясковых музыкаў» В. Помазава, твора праўдзіва беларускага складу, у якім кампазітар стварыў карцінку з народнага жыцця, выкарыстаўшы элементы аўтэнтычнага фальклору. Ну, а Г. Новікаў ды аркестранты разыгралі цэлую сцэнку, дзе непаслухмяныя музыканты і інструменты настройваюць, і газеты чытаюць у час выканання, ды яшчэ і граюць фальшыва, даводзячы свайго кіраўніка да таго, што той у гневе ламае дырыжорскую палачку. І ўсё гэта на фоне зіхоткай, насычанай гумарам музыкі. У час гэтага выканання прыгадалася наша даўняя размова з аўтарам, калі ён, расказваючы пра гэты ды іншыя свае творы, марыў аб выканаўцах, якія здолелі б найбольш дакладна ўвасобіць ягоныя задумы. Пэўна, у ігры «Менска» мары яркага нашага кампазітара, які так рана пайшоў з жыцця, увасобіліся найбольш дасканала.

Аркестру «Менск» з яго досыць нязвыклым для народнага аркестра складам ужо ўласцівы свой, асаблівы каларыт гучання, свой музычны почырк, хаця існуе калектыў толькі некалькі гадоў. Расказвае пра яго станаўленне прэзідэнт творчага аб'яднання «Аркестр «Менск» Радзіён Глебаў:

— Наш творчы калектыў быў створаны ў 1990 годзе і аб'яднаў прафесійных музыкантаў — лепшых студэнтаў і выпускнікоў Беларускай акадэміі музыкі. Галоўная творчая мэта — прадставіць слухачу лепшыя ўзоры класічнай і народнай музыкі ў аўтэнтычным і каларытным гучанні традыцыйных славянскіх музычных інструментаў, паказаць іх шматгранныя магчымасці. Гэта першы на Беларусі прафесійны аркестр, які грунтуецца на традыцыйных усходне-славянскіх струнных інструментах: балалайкі, домры, гуслі, цымбалы, плюс група духавых і сінтэзатар. Найважнейшай творчай мэтай мы лічым выкананне беларускай музыкі. У аркестра ўжо ёсць і першыя поспехі: «Менск» стаў лаўрэатам І-й прэміі Рэспубліканскага фестывалю мастацтваў у Віцебску /1991 г./, годна прадстаўляў Беларусь на Міжнародным фестывалі славянскіх культур у Польшчы /1992 г./.

Адной з сур'ёзных вехаў у нашым прафесійным жыцці стаўся канцэрт у Беларускай політэхнічнай акадэміі, дзе пастаянна праходзяць рэпетыцыі калектыву. Кіраўнік народнага аркестра акадэміі — Р. Я. Пармон — стаў нашым верным сябрам і памочнікам, поруч з маладымі выканаўцамі ён нібыта набыў другую маладосць, а мы ўдзячныя гэтаму сапраўднаму музыканту за яго добразычлівасць і падтрымку.

Безумоўна, без нашага спонсара — камерцыйнага банка «Комплекс» — мы наўрад ці здолелі б ажыццявіць мару аб стварэнні незалежнага творчага калектыву. Упраўляючы мінскага аддзялення банка Яўген Іванавіч Краўцоў быў і застаўся самым верным сябрам для нас. Гэта чалавек, які мае «камп'ютэрны розум», тонкі густ і чуйнае на прыгажосць сэрца, якое ён не баіцца аддаваць у падтрымку творчасці.

Прыгадваю словы Я. Краўцова, сказаныя ім падчас прэзентацыі: «У жыцці павінна быць больш светлай энергіі. А калі ёсць людзі, захопленыя творчасцю, мы заўсёды іх падтрымаем». Хіба не дзівосная з'ява ў нашым цяперашнім жыцці: камерцыйны банк, адзін з самых буйных у рэспубліцы, выдаткоўвае грошы не на тэлевізійную рэкламу і бясконцыя забаўляльныя шоу, а падтрымлівае аркестр народнай музыкі, прадаўжаючы даўно забытыя высокія традыцыі мецэнатаў мінулага!

— Некаторыя музыканты ідуць сёння з мастацтва ў бізнес, а ў нашым калектыве, — працягвае Р. Глебаў, — наадварот: мы пачыналі з арганізацыйных работ, звязаных з самымі разнастайнымі праблемамі, і цяпер маем магчымасць непасрэдна займацца творчасцю, прываблiваючы да сябе і іншыя, самыя розныя калектывы. Наша творчае аб'яднанне атрымала статус юрыдычнай асобы — фірмы, пры якой можна ствараць філіялы, займацца самай разнастайнай дзейнасцю: гэта і магчымасць арганізоўваць і праводзіць канцэрты, фестывалі і вернісажы; гэта педагагічная, выдавецка-рэкламная дзейнасць; арганізацыя аўдыё- і відэазапісу, выраб і рамонт музычных інструментаў і г. д. Так што мы адкрытыя для рознага роду творчага супрацоўніцтва.

А для мяне асабіста «Менск» — увасабленне мары пра эксперыментальную творчую лабараторыю, дзе ёсць магчымасць удасканальваць сваё творчае аблічча. І можна ўжо гаварыць пра тое, што большая частка арганізацыйных клопатаў ззаду і настаў час для сапраўднай працы, неабходнай мне як кампазітару.

Мне падумалася пра вялікую адказнасць, якая легла на плечы гэтых маладых музыкантаў. Творчая ж самастойнасць і матэрыяльная незалежнасць даюць «Менску» як вялікія магчымасці, так і новыя, у тым ліку й непрадбачаныя, цяжкасці. Аркестр, які сам сабе гаспадар, не залежыць ад дзяржаўных структур, — з'ява ў нашым жыцці новая і тым больш цікавая.

Генадзь Новікаў, мастацкі кіраўнік і дырыжор, чалавек, адданы народнай музыцы, яшчэ студэнтам кансерваторыі марыў пра стварэнне аркестра. Ён успамінае:

— Мяне заўсёды захапляў сам працэс дырыжыравання, і я стараўся ўзяць усё магчымае ад стасункаў з Л. Івановым, Ю. Яфімавым, В. Дуброўскім. У памяці назаўсёды захаваліся словы Юрыя Міхайлавіча Яфімава, сказаныя ім незадоўга да смерці: «Гена, вам патрэбны канцэртны аркестр, здатны выконваць самы разнастайны рэпертуар». Мы вельмі шануем добрае стаўленне да нашага калектыву Яўгена Аляксандравіча Глебава, якога лічым сваім «духоўным бацькам». Ён не толькі даверыў аркестру выкананне сваіх твораў, а і дапамог парадамі ў рэпетыцыйным працэсе і ў складанні праграм.

Наша мэта — іграць музыку даступную і зразумелую слухачу, ісці да народа. І гэта асабліва важна цяпер, калі ўсеагульная камерцыялізацыя спараджае страту цікавасці да сапраўднага мастацтва, і ў першую чаргу да народнай музыкі. Але мы і лёгка можам ісці на эксперымент. Выконваючы музыку славянскіх народаў, мы не хочам падладжвацца пад кан'юнктуру, мы хочам мець сваё аблічча. Абрыдла быць правінцыяй, і калі ёсць багата таленавітых музыкантаў, кампазітараў, то ім трэба аб'яднацца для адзінай мэты, каб не застаяцца як прафесіяналам. А паколькі музыканты — народ камунікабельны, ім як паветра патрэбна магчымасць еднасці. Мы запрашаем да супрацоўніцтва кампазітараў самых розных. Пішыце для нас! А мы будзем іграць, і хораша іграць».

Гэтымі словамі Г. Новікава мне і хацелася б закончыць аповяд пра канцэрт-прэзентацыю аркестра «Менск», пажадаўшы гэтай супольнасці таленавітых музыкантаў цудоўных новых твораў, разнастайных сустрэч са слухачамі, працягла і шчаслівага творчага жыцця.

**Іна ГУРАРЫЙ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



*Віртуознае сола Т. МЕЛЬНІКАВАЙ.*



*І. АЛЯКСАНДРАВА ды Т. БАЧЫЛА.*



*Полька І. Штрауса з «салаўём» ды «зязюлькай»...*



*Чароўная фермата! Саліст ДАВТа А. КЕДА і дырыжор Г. НОВІКАЎ.*



*В. ЕНЗА, Т. МАРОЗАВА, М. ТУШЫНСКІ.*

Адгалоскі

**У газеце «Звязда», у апошніх яе нумарах за 1993 і першых за 1994 год, надрукаваны нарыс Анатоля Мяснікова «Антон Жабрак» — пра былога прэзідэнта Беларускай акадэміі навук. Вядома, у газетным нарысе цяжка больш-менш поўна паказаць вялікае, змястоўнае і разам з тым трагічнае жыццё сусветна вядомага вучонага. Гутарка не пра гэта. У нарысе ёсць недакладнасці і, як нам здаецца, неглыбока і неаб'ектыўна раскрываюцца некаторыя падзеі з жыцця Антона Раманавіча.**

# «І Я, І ЯНЫ — АХВЯРЫ...»

Па-першае, А. Мяснікоў перайначыў прозвішча вучонага. Замест Жэбрак, як пішацца па-беларуску прозвішча акадэміка, аўтар піша Жабрак. На гэты конт ёсць думка самога вучонага.

З Антонам Раманавічам Жэбракам я быў знаёмы з 1935 года. Калі ў лютым 1940 года яго выбралі акадэмікам Беларускай акадэміі навук, супрацоўнік газеты «Звязда» Алесь Матусевіч папрасіў мяне пазнаёміць яго з Жэбракам. У гутарцы з новым акадэмікам Матусевіч спытаў яго, як правільна пісаць яго прозвішча на беларускай мове — Жэбрак ці Жабрак?

— Маё прозвішча на ўсіх мовах — беларускай, рускай, англійскай і іншых, гучыць аднолькава — Жэбрак. Некаторыя думаюць, што яно паходзіць ад польскага слова «жэбрак». Нават пытаюць, ці не паляк я. Не, я беларус. Прозвішча маё паходзіць ад беларускага слова «жабрак». Але ў той час, калі ўводзіліся прозвішчы, усе матрыкулы вяліся на рускай мове і словы «жабрак» у рускай транскрыпцыі перайшло ў «жебрак». А па-беларуску — Жэбрак. Так сфарміравалася маё прозвішча, такім яно і застаецца. Калі ж яго пісаць па-беларуску, Жабрак, то гэта ўжо будзе іншае прозвішча.

Такі быў адказ. Заўважым, што ў той жа газеце «Звязда» за 19 студзеня 1994 года на першай старонцы ўпамінаецца імя народнага дэпутата Вярхоўнага Савета РБ Міхася Жэбрака, а не Жабрака. У Беларускай савецкай энцыклапедыі прозвішча Антона Раманавіча таксама напісана — Жэбрак.

Але гутарка не толькі пра гэта. Аўтар піша пра службу свайго героя ў Чырвонай Арміі, у якой Антон Жэбрак даслужыўся да пасады начальніка палітаддзела 12-й арміі /1922 год/. Па сучасных мерках гэта пасада генерала, ды яшчэ высокага рангу. Антону ж, калі ён прыйшоў у армію, было семнаццаць гадоў. У арміі ён прабыў каля двух гадоў, за гэты час ён перахварэў на два тыфы. За гэты кароткі час даслужыцца да такога высокага чыну ён не мог. Пры ўсіх яго здольнасцях яму не хапала палітычных і ваенных ведаў і вопыту, каб заняць такую высокую пасаду.

У сапраўднасці ж Антон Жэбрак служыў у палітаддзеле 17 кавалерыйскай дывізіі, і не начальнікам палітаддзела, а інспектарам. Аб гэтым сведчыць наступны дакумент.

«Мандат

Дан сей Политотделом 17 кавалерийской дивизии тов. Жебраку в том, что он является инспектором-организатором Политотдела 17 кавалерийской дивизии. Ему предоставляется право...» і г. д.

Для семнаццацігадовага юнака і такая пасада была высокай.

Недакладна і тое, што Антон Жэбрак служыў у арміі да 1922 года. Ужо ў жніўні 1921 года ён быў залічаны студэнтам Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве.

Перабльітана ў нарысе і імя паплечніка і кансультанта Лысенкі — Прэзэнта. Яго звалі не Ісак, як піша Мяснікоў, а Ісай. Ісай Ізраілевіч. Недакладна і тое, што бацька Антона Жэбрака быў беззямельным селянінам. Была ў Рамана Паўлавіча невялікая гаспадарка — дзесяціны са тры зямлі, конь, карова, дробная жывёла.

Нельга пагадзіцца з трактоўкай аўтарам нарыса некаторых падзей, якія разгарнуліся пасля надрукавання ў амерыканскім часопісе «Навука» артыкула Жэбрака «Савецкая біялогія». Артыкул быў напісаны не па ініцыятыве самога Жэбрака, а па даручэнні Антыфашысцкага камітэта савецкіх вучоных. То быў адказ на выступленне ў тым жа часопісе амерыканскага прафесара Сакса, які сцвярджаў, што ўсю савецкую біялогію ўзначальвае Лысенка, якога ён не прызнаваў за вучонага, а таму і савецкую біялогію нельга лічыць навукай.

Жэбрак у сваім артыкуле паказаў, што ў Савецкім Саюзе ёсць дзве плыні ў біялогіі. Ён даў навуковую ацэнку класічнай генетыкі і аб'ектыўную ацэнку дзейнасці Лысенкі. Жэбрак паказаў не толькі адмоўнае ў поглядах Лысенкі, некаторыя яго прапановы па аграноміі ён лічыў карыснымі.

Са з'яўленнем артыкула ў амерыканскім часопісе адразу ж выступілі ў друку з крытыкай Прэзэнт і Лысенка. Але іхняя крытыка не выклікала ніякага рэзанансу, прайшла незаўважнай.

І вось у «Литературной газете» за 30 жніўня 1947 года з'явіўся артыкул «На суд грамадскасці». А праз тры дні, 2 верасня, выступіў прафесар Лапцеў у «Правде» з артыкулам «Антыпатрыятычны ўчынак пад сцягам «навуковай» крытыкі». У гэтых артыкулах Жэбрак абвінавачваўся ў антыпатрыятызме і ледзь не ў здрадзе радзіме за тое, што не абараняў, а крытыкаваў вядомага вучонага, наватара Трафіма Дзянісавіча Лысенку, за тое, што савецкую біялогію лічыў неад'емнай часткай сусветнай навукі.

У гэтых жа артыкулах абвінавачваўся ў нізкапаклонстве перад буржуазнай навукай і вядомы генетык, прафесар Мікалай Пятровіч Дубінін.

А. Мяснікоў выступленне пісьменнікаў супроць Жэбрака называе палітычным даносам. Фармальна гэта так, а на справе было куды больш складана. Каб пераканаць чытачоў, што Суркоў і Твардоўскі здольныя на такія агіднасці, аўтар дае ім адмоўныя характарыстыкі. Суркоў, маўляў, пісаў хвалебныя вершы пра Сталіна, а Твардоўскі яшчэ горш — у 1947 годзе быў выбраны членам партбюро Саюза пісьменнікаў, стаў лаўрэатам Сталінскай прэміі... Але хто ў той час з паэтаў і празаікаў, апроч дысідэнтаў, не слаславіў Сталіна?

Генадзя Фіша А. Мяснікоў называе лёкаем. Тут пярэчыць нельга. Фіш нямала пастараўся ў раздзіманні славы Лысенкі. Правільна крытыкуе аўтар нарыса і выступленне прафесара Лапцева. Прафесар Лапцеў як эканаміст-аграрнік падзяляў погляды Лысенкі і сваім выступленнем супроць Жэбрака і Дубініна, магчыма, рабіў кар'еру, цэліў у акадэмікі Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук, якую ўзначальваў Лысенка. І ў 1948 годзе дабіўся свайго.

Узнікае пытанне, як магла скласціся гэта тройца — Суркоў, Твардоўскі і Фіш? Чаму яны выступілі з крытыкай Жэбрака і Дубініна амаль праз два гады пасля надрукавання артыкулаў гэтых вучоных у амерыканскім часопісе? Выклікае сумненне кампетэнтнасць іх, выключаючы Фіша, у праблемах біялогіі, іх дасведчанасць у прынцыпах і сутнасці барацьбы лысенкаўцаў з генетыкамі.

Паводле А. Мяснікова, на пісьменнікаў нейкім чынам паўплывалі Лысенка і Прэзэнт. На справе ж усё было больш складана. Не хапіла б сілы ў Лысенкі і Прэзэнта заварыць такую кашу.

У канцы Вялікай Айчыннай вайны тысячы савецкіх людзей — рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя — у саставе Савецкай Арміі пабывалі ў краінах «гніючага» капіталізму, пабачылі, як там жывуць людзі. Вярнуўшыся на радзіму, яны, вядома ж, расказвалі пра бачанае сваім родным, знаёмым, выпадковым сустрэчным. Гэта шматмільённая армія «прапагандыстаў» напужала вышэйшае партыйнае і савецкае кіраўніцтва. Трэба было прымаць нейкія захады.

І вось у сакавіку 1947 года Сталін даў заданне А. Жданаву распрацаваць праект пастановы ЦК ВКП/б/ «Аб судах чэсці ў міністэрствах і цэнтральных ведамствах». Пастанова «Аб судах чэсці» была прынята 28 сакавіка 1947 года ЦК ВКП/б/ і Саветам Міністраў. У пастанове адзначалася, што суды чэсці «заклікаьы садзейнічаць справе выхавання работнікаў цэнтральных органаў у духу савецкага патрыятызму і адданасці інтарэсам савецкай дзяржавы /.../ Для барацьбы з правіннасцямі, якія ганьбяць чэсць і годнасць савецкага работніка». Гэта перш за ўсё распаўсюджвалася на кіруючых, апаратыўных і навуковых работнікаў. Словам, на вышэйшыя колы інтэлігенцыі, з якой кіраўніцтва Камуністычнай партыі ніколі не ладзіла.

Сталін уважліва сачыў за дзейнасцю судоў чэсці, не дапускаў, каб арганізацыя судоў праводзілася без яго санкцыі. /Глядзі «Известия ЦК КПСС», N 11 за 1990 г./

Яшчэ адна дэталь. Літаральна за тыдзень да з'яўлення артыкула ў «ЛГ» супроць Жэбрака і Дубініна ў састаў рэдкалегіі «Литературной газеты» быў уведзены акадэмік-філосаф Марк Барысавіч Міцін, член ЦК КПСС, адзін з галоўных ідэолагаў партыі, яры абаронца лысенкаўскіх тэорый. Мусіць, у ЦК збіраліся страляць не па вераб'ях, калі такую магутную гармату выставілі на нізкую, але зручную пазіцыю.

Усё гэта наводзіць на думку, што выступленні ў друку супроць двух лідэраў у барацьбе з лысенкаўшчынай, Жэбрака і Дубініна, былі прадумана арганізаваны па камандзе вышэйшага кіраўніцтва. Магчыма, што тэкст артыкула рыхтаваў Г. Фіш, а Суркова і Твардоўскага прымусілі падпісаць у парадку партыйнай дысцыпліны.

Такое меркаванне пацвярджаецца і тым, што пасля з'яўлення артыкулаў у «ЛГ» і «Правде» ў ЦК КПСС пайшоў паток пісем вучоных з пратэстам супроць паклёпу на Жэбрака і Дубініна. Амаль ва ўсіх гэтых пісьмах не ўпаміналіся імёны пісьменнікаў і іх артыкул, уся крытыка скіравана на Лапцева. Нават у пісьме Жэбрака на імя Жданава не названы імёны літаратараў, а Лапцеў абвінавачваўся ў нядобрасумленнасці і паклёпніцтве.

Тайну таго, што фабрыкуюцца артыкулы з подпісамі пад прымусам, міжвольна выдаў былы дырэктар Інстытута філасофіі Беларускай акадэміі навук Іван Макаравіч Ільюшын. І ў Беларусі, па ўзору Масквы, таксама сфабрыкавалі артыкул супроць Жэбрака, які быў падпісаны М. Дарожкіным, М. Замяціным, А. Лапо, В. Шэмпелем. Пяты подпіс павінен быў паставіць акадэмік Ціхан Мікалаевіч Годнеў, але ён адмовіўся. Характэрна, што чатыры камуністы падпісалі, а беспартыйны Годнеў — не.

На пасяджэнні прэзідыума Акадэміі навук Ільюшын накінуўся на акадэміка Годнева за тое, што ён адмовіўся падпісаць артыкул, абвінаваціў яго ў падтрымцы мендэліста-марганіста Жэбрака. У пакаранне Годнева звольнілі з пасады акадэміка-сакратара біялагічнага аддзялення.

Узнікае пытанне: чаму ж не адмовіліся падпісаць артыкул Суркоў і Твардоўскі, а ў Беларусі — М. Дарожкін, М. Замяцін, А. Лапо і В. Шэмпель? На гэта пытанне пазней адказаў Антон Раманавіч Жэбрак.

Усіх здзіўлялі адносіны Антона Раманавіча да тых людзей, якія выступалі супроць яго ў друку, на пасяджэннях прэзідыума, на сесіях, на сходах і канферэнцыях. Ён ставіўся да іх аднолькава ветліва як і да ўсіх іншых супрацоўнікаў і знаёмых: вітаўся, размаўляў, абмяркоўваў дзелавыя пытанні, не праяўляў ні крыўды, ні помсты, як бы яны нічога благога яму не зрабілі.

Даведацца пра сутнасць такіх яго паводзін у той час, калі адбываліся гэтыя падзеі, нельга было. Ад гутарак на такія тэмы Антон Раманавіч адмахваўся.

Ужо ў 1957 годзе, калі Жэбрак зноў стаў супрацоўнічаць з АН БССР, часта бываў у Мінску, я пры зручнай нагодзе спытаў у яго: на якой сіле трымаецца яго бяскрыўднасць і ўсёдаравальнасць?

— На тым, што і я, і яны — ахвяры. Мы ўсе былі маральнымі і палітычнымі кастратамі. Еўнухамі. У нас не было маральнай волі, волі самастойных, асабістых адносін да жыццёвых з'яў, выканання сваіх поглядаў. Была жалезная партыйная дысцыпліна — або падпішы, або палажы партбілет. А што значыла кінуць партбілет? Гэта ўсё роўна, што плюнуць у твар партыі і яе вышэйшага кіраўніцтва. І жыццё тваё скончана. Не ведаю выпадку, каб выключаны з партыі па палітычных матывах застаўся на волі. Іншая справа, калі чалавек сам, без прымусу або па згодзе піша паклёпніцкія даносы. Такія людзі варты маральнага асуджэння і кары, — адказаў Жэбрак.

У нарысе А. Мяснікова галоўныя віноўнікі трагедыі Антона Раманавіча Жэбрака і тысяч іншых вучоных біёлагаў — Сталін, А. Жданаў і іхняе акружэнне — засталіся ўбаку. Засталіся ўбаку і ганіцелі Жэбрака на Беларусі — сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Міхаіл Трыфанавіч Іаўчук, наступнік Антона Раманавіча на пасадзе прэзідэнта Беларускай акадэміі навук Мікалай Іванавіч Грашчанкаў, які актыўна змагаўся з «жэбракаўшчынай».

Ёсць і другія недакладнасці ў нарысе. Напрыклад, Мяснікоў піша, што даклад Лысенкі «як дакладна ўстаноўлена нядаўна, праглядаў перад пачаткам сесіі сам Сталін, зрабіў у ім шматлікія праўкі і «ўдакладненні». Правільна тут толькі тое, што нядаўна стаў вядомы характар папраўкі і ўдакладненняў, зробленых Сталіным. А тое, што Сталін праглядаў даклад, стала вядомым у апошні дзень сесіі. Лысенка ў заключным слове сказаў, што «ЦК партыі разгледзеў мой даклад і ўхваліў яго».

Усе беспамылкова зразумелі, што даклад ухваліў Сталін. Ніхто другі ад імя ЦК зрабіць гэтага не мог. То быў каварны ход Лысенкі. Каб ён у пачатку сесіі сказаў, што даклад яго ўхваліў ЦК партыі, ніхто б з генетыкаў не выступіў з крытыкай даклада. Крытыкаваць даклад, ухвалены Сталіным, усё роўна, што крытыкаваць самога Сталіна.

Як толькі Лысенка закончыў свае заключнае слова, некаторыя з выступаўшых генетыкаў кінуліся да трыбуны, сталі раскайвацца, заяўлялі аб адмаўленні ад сваіх поглядаў.

Антон Раманавіч Жэбрак не ўзняўся на трыбуну, не адмовіўся ад сваіх пераканання, як не адмовіўся ад іх і на судзе чэсці.

Я не збіраюся абвінавачваць у чымнебудзь Анатоля Мяснікова. Мінула 28 гадоў, як не стала Жэбрака. Нялёгкая справа — сабраць матэрыял, дакапацца да сутнасці фактаў і з'яў. Але ж... Пры ўсіх умовах патрэбна ўважлівае, самапатрабавальнае даследаванне жыцця і дзейнасці чалавека, пра якога пішаш. Антон Раманавіч Жэбрак — вялікі сын беларускага народа і заслугоўвае добрай і паважлівай памяці.

**Ігнат ДУБРОЎСКІ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## НАШ КАЛЯНДАР

**2 лютага — 95 гадоў з дня нараджэння французскага славіста, даследчыка старажытнай беларускай мовы і літаратуры Антуана МАРТЭЛЯ /1899—1931/. У 1938 годзе выйшла манаграфія «Польская мова на Украіне і Беларусі. 1569—1667», прысвечаная моўным сувязям у сярэднія вякі. У ёй, у прыватнасці, аналізуецца мова Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага і іншых. Аўтар адмоўна ставіўся да паланізацыі Беларусі.**

**8 лютага — 80 гадоў з дня нараджэння актыўнага ўдзельніка рэвалюцыйнай барацьбы ў Заходняй Беларусі, паэта Валянціна ТАЎЛАЯ /1914—1947/. Друкавацца пачаў у 1928 годзе. Неаднаразова выходзілі выбраныя творы. Пісаў літаратурна-крытычныя артыкулы пра творчасць Я. Купалы, Я. Брыля і іншых пісьменнікаў, займаўся перакладам.**

**10 лютага — 85 гадоў з дня нараджэння яўрэйскага пісьменніка Элі КАГАНА /1909—1944/. З першым апавяданнем выступіў у 1926 годзе. Пісаў на яўрэйскай мове. У 1940 годзе ў перакладзе на беларускую мову выйшла апавяданне для дзяцей «Дружная сямейка», у 1979 годзе — зборнік апавяданняў «Маем зялёным». Выступаў у галіне перакладу.**

**11 лютага — 130 гадоў з дня нараджэння польскага гісторыка культуры, краязнаўца, калекцыянера, сябра Ф. Багушэвіча Люцыяна УЗЕМБЛЫ /1864—1942/. Аўтар некралогаў «Паэт-юрыст», «Францішак Бенедыкт Багушэвіч» /1900/.**

**22 лютага — 180 гадоў з дня нараджэння польскага фалькларыста, этнографа, збіральніка беларускага фальклору, кампазітара Оскара КОЛЬБЕРГА /1814—1890/. Манументальная праца О. Кольберга «Народ. Яго звычаі, лад жыцця, мова, паданні, прыказкі, абрады, забабоны, забавы, песні, музыка і танцы» выйшла ў 1857—1890 гадах. У 54-х тамах перавыдадзена ў 1961—1972 гадах. У 52-ім томе «Беларусь—Палессе» /1968/ змешчаны 723 песні, мелодыі, паданні і казкі, апісанне вераванняў, абрадаў, 16 апісанняў вяселляў з Піншчыны, Лагойшчыны, Случчыны... Аўтар артыкулаў «Байкі з Палесся», «Звычаі і вясельныя абрады з Палесся».**

**25 лютага — 85 гадоў з дня нараджэння паэта Сяргея ДАРОЖНАГА /1909—1943/, ахвяры сталінізму. Выдаў зборнікі паэзіі «Звон вясны» /1926, разам з І. Плаўнікам/, «Васількавы россып» /1929/, «Пракосы на памяць» /1932/. У 1966 годзе выйшлі «Выбраныя вершы». Займаўся перакладам.**

**28 лютага — 130 гадоў з дня нараджэння беларускага фалькларыста і этнографа, польскай пісьменніцы Эмы ЯЛЕНСКАЙ /па мужу ДМАХОЎСКАЙ/. Нарадзілася ў вёсцы Камаровічы цяперашняга Петрыкаўскага раёна, памерла ў 1919 годзе. Запісала 11 сшыткаў народных песень. Склала два рукапісныя зборнікі казак, сабраных у Мазырскім і Навагрудскім паветах. Асноўная этнаграфічная праца яе — «Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце» /1891/.**

**Аляксандру САМАРАДАВУ — 75. Заслужаны артыст рэспублікі, ён вызначыўся ў вакальным мастацтве. Маючы добрую школу прафесара Беларускай кансерваторыі Я. Віцінга, артыст плёна працаваў у Дзяржаўным народным хоры, у хоры Акадэмічнага тэатра оперы і балета, салістам Беларускай філармоніі, рабіў запісы на радыё. Лірычны барытон артыста гучаў у народных песнях і оперных арыях, класічных рамансах і сучасных творах беларускіх кампазітараў.**

**Ушаноўваецца памяць Ларысы АЛЕКСАНДРОЎСКАЙ, з дня нараджэння якой мінула 90 гадоў. Выдатная спявачка, оперны рэжысёр, грамадскі дзеяч, проста адметная асоба, — пра яе, здаецца, напісана і сказана ўсё. Аднак своеасаблівыя штрыхі да партрэта легендарнай артысткі дадаюць і звязаныя з ёю новыя экспанаты Музея тэатральнага і музычнага мастацтва, і святкаванні, наладжаныя ў Акадэмічным тэатры оперы і балета, дзе з гэтай нагоды, прынамсі, быў паказаны днямі спектакль «Кармэн» — опера, з якой ушчыльную звязаны лёс Александроўскай і як спявачкі, і як актрысы, і як рэжысёра.**

## РЫГОРУ КУЛІНІЧУ — 75

**Нямала шчырых сяброў у беларусаў на Украіне. Сярод іх — літаратуразнаўца і перакладчык Рыгор Кулініч. Ён у сваёй даследчыцкай працы не абмінае і праблем беларускай літаратуры. У прыватнасці, творчасці Я. Купалы. Але асноўныя набыткі Р. Кулініча на ніве пабрацімства — у галіне перакладу. Дзякуючы яму на ўкраінскай мове выйшлі кнігі Я. Брыля «У Забалоцці днее», Я. Скрыгана «Людзьмі звацца», В. Карамазава «Дзень Барыса і Глеба». Асабліва шмат Р. Кулініч перакладае І. Шамякіна: «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», «Гандлярка і паэт», «Атланты і карыятыды» /разам з М. Алейнікам/, «Шлюбная ноч»... Калі ж назваць усіх пісьменнікаў, хто дзякуючы яму загаварыў па-ўкраінску, гэта будзе яшчэ добры дзесятак імён.**

**З днём нараджэння, дарагі сябра Кулініч! Поспехаў Вам у творчай працы!**

# ПАКАЯННЕ,

## АЛЬБО НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ЗАМЕСТ СЯБРОЎСКАГА НЕКРАЛОГА



*Мікола Пушкар і яго ажыўленая гліна.*

Мікола, сын Мікітаў, Пушкар!..

Мікола, дарагі мой дружа, аднадумца, дзіўны і загадкавы чалавек, перасмешнік, гумарыст і казачнік, Мастак з вялікай літары... Прабач і даруй!

Залетась яшчэ дамовіліся з Віктарам Казько абавязкова прыехаць з кінагрупай да палескага кераміста Міколы Пушкара. Ды — сарвалася, не прыехалі. І грошай у казне не было, і плёнкі, і бензіну не знайшлі, каб дабрацца да сталіцы Палесся. Бяды асаблівай не бачылася — перанясём на пазнейшы час, абавязкова прыедзем.

Мінулае лета таксама не паспагадала таму, каб ажыццявіць задуманае. У лістападзе паехаў я ў адпачынак, а Мікола — трэба ж такому здарыцца! — злёг у бальніцу з інфарктам. І не «хуткая» забрала, а жонка, Ганна Міхайлаўна, гледзячы на яго хваравіты стан, прымусіла пайсці і абследавацца. Ён ці не ўпершыню паслухаўся яе — не лічыў сябе хворым, хоць і прайшоў спачатку гітлераўскія канцлагеры, а потым сталінскія катоўні. «Ды ў мяне сэрца, як у быка, — жартаваў, — мне ж яшчэ столькі трэба зрабіць...»

Медыкі зрабілі кардыяграму і спалохаліся — забаранілі нават уставаць з канапы, адразу накіравалі ў рэанімацыю.

Хлопцы з кінастудыі «Беларусьфільм» прыехалі-такі. Прыехалі, не зважаючы, што паранейшаму і грошай тых не было, і паліва. Юры Марухін званіў, удакладняў, планаваў заехаць да мяне ў Гомель і пасля ўжо разам ехаць да Пушкара — каб вёў я перад камерай дыялог /бо ведаў пра яго амаль усё, зрабіў для выдавецтва «Беларусь» кніжачку пад назвай «Мікола Пушкар», мог разгаварыць, калі раптам не ў гуморы/. Ды, на жаль, паехалі без мяне, выехаўшы на два тыдні пазней, як мерыліся.

Дзяжурная дакторка здымаць дазволіла, але сказала са шкадаваннем: «Позна ж вы прыехалі, хлопцы...» А Пушкар быў вясёлы, жартаваў, пасміхаўся над сваёй нечаканай хваробаю. Гаварыў, гаварыў... Камера працавала і дзесяць, і пятнаццаць хвілін, і сорак — з перапынкамі, вядома ж...

А Юра Марухін марыў перад гэтым, што Пушкар пройдзецца перад камерай па сваёй знакамітай металічнай лесвіцы здароўя, ад Прыпяці на гару, па якой штодня збягаў і падымаўся па некалькі разоў, адольваючы дзвесце прыступак. І пры гэтым пасмейваўся з маладых: «Абленаваліся вы, да цывілізацыі прывыклі. Нам жа шмат сіл неабходна, каб стварыць усё, што задумалі...»

Думалася і пра тое, каб папрасіць Пушкара прайсціся хоць бы сярод восеньскага жаўталісця і паляшукаў цішыні, альбо зазняць яго за працай — выпацканага ў гліне, у палоне творчага натхнення...

Ды куды там — хаця б пратрымацца ў крэсле, хаця б не перанапружыцца!

Плакала душа ў Віктара Казько, які вёў замест мяне размову з мастаком. Пісьменнік за кароткі час паспеў захапіцца ім, пераканацца, што гэта незвычайны чалавек. І доўга маўчаў потым у гасцінічным нумары...

Мікола Пушкар нарадзіўся ў Барысаўцы паміж Белгарадам і Харкавам 8 мая 1919 года. Але гэтая дата прыблізная, бо адкуль было ведаць былому беспрытульніку, выхаванцу калоніі Макаранкі, бязбацькавічу, дакладны год і дзень свайго нараджэння?

У кароткай энцыклапедыі Беларускай ССР за 1982 год у пятым томе пра яго сказана: «Бел. сов. художник-керамист. Чл. КПСС с 1963 г. Окончил Харьковское художеств. уч-ще /1937/. Участник Отечеств. войны. Живет и работает в Мозыре. Работы в области мелкой терракотовой пластики. Осн. тема произведений — фольк. мотивы и этногр. сценки, отличающиеся юмором, психологич. остротой характеристики персонажей, хорошим знанием нар. обычаев...»

Калі ў Міністэрстве культуры віншавалі яго з нагоды прысваення звання заслужанага дзеяча мастацтваў, то падзякавалі яму... за стварэнне смешных чалавечкаў. І ўсё. Нібы адзначылі аматара-пачаткоўца.

Ён страшэнна не любіў, калі надакучалі журналісты. Асабліва газетчыкі, якія з двух слоў — не было калі размаўляць — маглі напісаць нарыс пра самабытнага кераміста на Палессі. Прыстаў адзін з абласной газеты, каб прызнаўся, ці стойкім камуністам быў, чаму аднавіўся ў партыі. Ну, Мікола і адказаў. «Быў я такім адданым камуністам, што нават калі адправілі ў ГУЛАГ, то партыйны білет з профілем Ільіча ў боце хаваў». Сказаў і — не ўсміхнуўся нават. А газетчык і рады: намаляваў вобраз стойкага барацьбіта за камуністычную ідэю, хоць той ніводнага разу за ўсё жыццё вобраз таго камуніста так і не стварыў...

Колькі з ім было гаворана-перагаворана! Скардзіўся ён і абураўся, як цяжка было ствараць музей, колькі парогаў абабіў — партыйных і выканкамаўскіх. Напэўна, другі здаўся б, але не Пушкар. Ездзіў па Палессі, прасіў, вымольваў, купляў за свае грошы андаракі і прасціradлы, ручнікі і сукенкі... Колькі разоў потым партыйныя сакратары ўпікалі, што не паказаў беспрасветнае і бескультурнае жыццё беларусаў — лапці трэба дэманстраваць ды лучыну. А ён адшукваў прыгожыя строі, намагаўся давесці, што беларус меў найвышэйшы ўзровень разумення як бытавога мастацтва, так і агульначалавечага. Гаварылі ў вочы, што ён нейкіх прыдуркаў лепіць — не такія, маўляў, людзі Савецкай Беларусі. А ён аджартоўваўся: хіба ж з імі можна гаварыць сур'ёзна?

Грэўся я ад цеплыні яго душы, калі жыў у Мазыры — нашы «хрушчоўкі» стаялі побач на вуліцы Якуба Коласа. Адукацыю меў ён невысокую, а давучвацца не было калі. І прасіў мяне прыносіць кнігі па гісторыі, фальклору, культуры Беларусі. І я здзіўляўся яго самаадданасці — вобразы ў гліне ўдасканальваліся, набывалі глыбокі філасофскі сэнс.

Калі я пераехаў у Гомель, духоўная і сяброўская сувязь наша не перарвалася. Мікола, прыязджаючы па мастакоўскіх справах у абласны саюз, не мінаў маёй хаты, нашыя гутаркі зацягваліся ажно да раніцы.

Чалавек складзены так, што пра кепскае не думае. Быў жа пад рукамі дыктафон, былі касеты — чаму было не паставіць дзе збоку, неўпрыкмет, мікрафон ды запісваць кожную гутарку, кожны дыспут ці вясёлае застолле? Ат, думалася, будзе яшчэ час, некалі ў лес з'ездзім на цэлы дзень, ды каля касцярка пад дымок столькі прыгод і здарэнняў успомнім, што ні ў адну кніжку не ўбярэш. І адкладваў, верыў, што Мікола стрымае сваё слова і абяцанне — дажыць да ста дваццаці. Але ў памяці засталося ўсё да дробязяў. І калі рыхтаваў «Княжабор», алегарычна-фантастычную аповесць «Азірніся ў каханні», назваў героя амаль сапраўдным прозвішчам — Міколам Пушкарчуком, спісваючы рысы характару і жыццёвыя прыгоды з яго. Кніжка вось-вось на выхадзе...

Выпісаўся Мікола з бальніцы. Дома радаваўся жыццю, хатняй утульнасці, рука цягнулася да алоўка — рабіў накіды...

Трагічная вестка адшукала мяне позна, калі са сталіцы перад Новым годам не выбраўся, не прабіўся ні ў адну касу. Вось і не паспеў на пахаванне. Адно хіба ўсцешвае: разам з Ганнай Міхайлаўнай і мазыранамі Міколу ў апошні шлях праводзіла і мая жонка.

Прыкра ад другога: не знайшлі для яго гарадскія ўлады месцейка непадалёк ад горада, а выдзелілі далёка за Мазыром — пад Драздамі, куды і дабрацца не заўсёды зможа Ганна Міхайлаўна па сённяшнім часе. Як выкінулі яго ўсё роўна з гарадской рысы, як «аддзячылі» за тое, што надакучваў пры жыцці. Ні з вобласці, ні з Мінска на пахаванні нікога не было. І слоў тых, што ён заслужыў, не было сказана.

Няўжо мы аказаліся акурат такімі ж, якімі ён нас і выстаўляў усяму свету напаказ — з нейкім вывіхам, бяздушнымі і аморфнымі, глухімі да чужога болю і гора, без Бога і веры?..

Некалі, як пройдзе час, яго творчасць, яго самабытнае мастацтва прыцягне ўвагу даследчыкаў, яны будуць дакопвацца да сакрэтаў прастаты і геніяльнасці яго вобразаў. Тады мы спахопімся, тады адчуем страту, але сёння...

Сёння асірацеў музей Міколы Пушкара. Нават шыльда на сцяне — яшчэ пад грыфам Міністэрства культуры БССР і на расейскай мове. Пушкар даўно прасіў, каб зрабілі людскую, каб прыезджыя бачылі, што ідуць наведаць менавіта наш, беларускі музей, ды не дапрасіўся...

Мікола хацеў вылепіць скульптуру «Падкова Палешука». Сюжэт просценькі: босы і галодны паляшук трымае на кійку за спіной падкову. І — радуецца, смяецца бязмежна. Ніякае гора яго не возьме цяпер. Бо ён жа адшукаў падкову — а яна, як вядома, прыносіць шчасце.

Не паспеў вылепіць, як не паспеў стварыць сотні і сотні іншых вобразаў — нас з вамі.

Кажуць, што калі чалавек памірае раніцай, то яму яшчэ належала пражыць шмат гадоў. Мікола памёр ранічкай, сказаўшы перад гэтым жонцы: «Людзі пайшлі на працу, а нам з табою ўжо нікуды не трэба...» Яму пражыць бы яшчэ з гадочкаў пяць — Божа, як бы пабагацела нашае нацыянальнае мастацтва!

Побач з маім рабочым сталом на паліцы стаяць гліняныя Ясь і Яніна. Паглядаюць адно на аднаго. На плячы ў хлопца — вострая каса, у дзяўчыны ў руках — васілёк. Раней, колькі месяцаў назад, у іх вачах я бачыў радасць. Сёння ў вачах — боль і страта.

Ные, баліць, заходзіцца ад непапраўнай страты сэрца — у ім вялікае месца займаў казачнік-бай, сябар і дарадчык, перасмешнік, мой настаўнік Мікола Мікітавіч Пушкар...

**Анатоль БАРОЎСКІ**

*г. Гомель*

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Анатолю Дзялендзіку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь смуткуе з нагоды смерці заслужанага дзеяча культуры Беларусі, мастацкага кіраўніка народнага ансамбля танца «Лявоніха» Палаца культуры Мінскага трактарнага завода Мікалая Мікалаевіча ЧЫСЦЯКОВА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ГРАМАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ФОНД СОРАСА—БЕЛАРУСЬ АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС НА ПРАЕКТЫ І ДАСЛЕДАВАННІ Ў ГАЛІНЕ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК

## АГУЛЬНЫЯ ЎКАЗАННІ АБ ПАРАДКУ І ПРАЦЭДУРЫ ПАДАЧЫ ЗАЯЎКІ НА САІСКАННЕ ДОСЛЕДНЫХ ГРАНТАЎ ПА ГУМАНІТАРНЫХ НАВУКАХ ФОНДУ СОРАСА—БЕЛАРУСЬ



**Дадзеная праграма конкурсных грантаў адкрыта для вучоных, якія працуюць на тэрыторыі Беларусі і прадугледжвае праекты, разлічаныя на тэрмін да двух гадоў з фінансаваннем да трыццаці тысячаў долараў для індывідуальных вучоных і малых груп па прыярытэтных накірунках. /Перавага будзе аддавацца праектам у межах 10000 $/.**

Заяўка на грант уключае наступныя дакументы:
І. Заяўка на ўдзел.
ІІ. Апісанне праекта.
ІІІ. Праект бюджэту.
IV. Інфармацыя пра саіскальніка.
V. Дзве пісьмовыя рэкамендацыі.
VI. Канверт і дзве паштоўкі са зваротным адрасам.

Усе неабходныя дакументы друкуюцца на машынцы альбо на камп'ютэры. Усе дакументы падаюцца ў трох экземплярах: дзве копіі на беларускай ці рускай мове і адна копія на англійскай мове. Усе графы павінны быць запоўнены. Саіскальнік нясе адказнасць за праўдзівасць і дакладнасць інфармацыі, указанай у заяўцы. Любая навуковая публікацыя, выкананая па гранту, павінна ўключаць падзяку Фонду Сораса—Беларусь. Пасля выканання праекта складаецца планавая справаздача, якая ўключае кароткае апісанне атрыманых вынікаў.

### І. ФОРМА ЗАЯЎКІ.

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку.
2. Дата нараджэння.
3. Месца нараджэння.
4. Грамадзянства.
5. Пашпартныя дадзеныя.
6. Месца работы.
7. Пасада.
8. Рабочы адрас, тэлефон/факс.
9. Хатні адрас, тэлефон.
10. Вучоная ступень: год абароны, вучонае званне, год прысуджэння.
11. Прыярытэтны накірунак у галіне гуманітарных навук.
12. Назва доследнага праекта /не больш 30 слоў/.
13. Запрошаны аб'ём фінансавання /укажыце ў доларах ЗША/.
першы год ______________
другі год ______________
агульная сума______________
14. Патрабуемая працягласць праекта.
15. Іншыя ўдзельнікі доследнага праекта /калі неабходна, выкарыстоўвайце дадатковыя старонкі/.

а. Прозвішча, імя, імя па бацьку. б. Дата нараджэння. в. Месца работы. г. Пасада. д. Пашпартные дадзеныя. е. Дата і месца выдачы. ж. Вучоная ступень. з. Год абароны. і. Вучонае званне, калі прысуджана.

16. Рэзюме. Сэнс прапануемага даследавання, перспектыўныя і непасрэдныя навуковыя мэты: кароткі план работ. Пазбягайце апісання мінулых вынікаў. Рэзюме ўяўляе сабой незалежнае апісанне мяркуемага праекта.
17. Подпіс навуковага кіраўніка праекта. Сапраўдным пацвярджаю, што прадстаўленая ў заяўцы інфармацыя сапраўдная і я гатоў выконваць усе пункты гэтай праграмы.

Падпісаны арыгінал гэтай формы павінен быць прадстаўлены ў Фонд Сораса—Беларусь.
Подпіс: Дата:

### ІІ. АПІСАННЕ ПРАЕКТА /не больш за 7 старонак/.

Апісанне праекта ўключае наступныя раздзелы:

а. Перспектыўныя і непасрэдныя навуковыя мэты, гіпотэзы, на якіх заснаваны праект.

б. Ацэнка стану ў дадзенай галіне ведаў, якія праблемы будуць вырашаны, якія існуючыя прагалы ў ведах будуць запоўнены.

в. Ацэнка ўзроўню і існуючай асновы, закладзенай удзельнікамі праекта ў дадзенай галіне.

г. Апісанне шляхоў дасягнення пастаўленых мэтаў, метадаў і абсталявання, неабходных для гэтага, апісанне магчымых альтэрнатыўных да мяркуемых у праекце падыходаў.

д. Графік выканання работ па этапах.

### ІІІ. ПРАЕКТ БЮДЖЭТУ.

Прозвішча кіраўніка праекта
І. Зарплата і ганарары.
А. Кіраўнік праекта /сума ў месяц/ /колькасць месяцаў/
агульная сума
выдзеленая сума
В. Іншыя ўдзельнікі праекта.
1.
2.
3.
4.
...
2. Абсталяванне і матэрыялы /пералічыць/.
Запрошаная сума
Выдзеленая сума
Разам на абсталяванне:
3. Міжнародныя камандзіроўкі
...
Разам на міжнародныя камандзіроўкі:
...
4. Сувязь, капіраванне, редакцыйна-выдавецкая дзейнасць.
Разам:
5. Іншыя расходы /укажыце/
Разам:
6. Поўныя расходы /1+2+3+4+5/
Разам:

Калі рэалізацыя праекта ўключае пастаўку абсталявання з удзелам Фонду Сораса—Беларусь, напрыклад, доследную апаратуру, аўдыё- і відэаабсталяванне, камп'ютэры, фотакапіравальную тэхніку і іншае абсталяванне, то неабходна ўказаць: месца размяшчэння такога абсталявання і асобу, якая адказвае за яго; наяўнасць кваліфікаванага персаналу для яго эксплуатацыі; даступнасць такога абсталявання для іншых арганізацый інстытутаў, лабараторый. Набытае абсталяванне застаецца ўласнасцю Фонду Сораса—Беларусь.

7. Указаць іншыя крыніцы і аб'ёмы фінансавання /бюджэт, іншыя праекты/, у тым ліку мяркуемыя праекты/, кіраўніка і іншых удзельнікаў праекта, мяркуемы прыбытак.

### IV. ІНФАРМАЦЫЯ АБ САІСКАЛЬНІКУ.

1. Кароткія аўтабіяграфіі /з указаннем адукацыі, прафесійнага вопыту, ведання замежных моў/.
2. Спіс публікацый: /рыхтуецца ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі стандартамі/ не менш за пяць публікацый за апошнія пяць гадоў для кіраўніка і трох для астатніх удзельнікаў праекта ў вядучых навуковых часопісах і працах міжнародных канферэнцый.

V. Дзве пісьмовыя рэкамендацыі.

Рэкамендацыі даюцца ў пісьмовым выглядзе кампетэнтнымі спецыялістамі, якія не з'яўляюцца сааўтарамі заявы, адзін з іх не з Беларусі, якія ведаюць пра вопыт работы і магчымасці саіскальніка /перавага будзе аддавацца водгукам ад замежных спецыялістаў/. Рэкамендацыі павінны ўключаць ацэнку праекта і пацвярджэнне здольнасці саіскальніка рэалізаваць праект.

### ПАДАЧА ЗАЯЎКІ.

Усе заўякі на гранты разглядаюцца на конкурснай аснове. Тэрміны падачы заявак з'яўляюцца фіксаванымі і праекты разглядаюцца адзін раз на год. Тэрмін падачы заявак на конкурс, які мае быць, да 1 сакавіка 1994 г. Заяўкі, пададзеныя пасля гэтага тэрміну, не разглядаюцца. Няпоўныя заяўкі не будуць улічвацца. Мы рэкамендуем усім саіскальнікам зрабіць копіі дасланых дакументаў для сябе. Пададзеныя па заяўцы матэрыялы і дакументы не вяртаюцца саіскальнікам. **Заяўкі неабходна накіроўваць па аўторках і чацвяргах з 15.00 да 17.00 па наступным адрасе: 220027, Мінск-27, пр. Ф. Скарыны, 65, корп. 11А, 5-ы паверх, «Фонд Сораса—Беларусь». тэл/факс: /0172/ 32-80-92, 39-93-46.**


**ЛіМ**

*Заснавальнікі:*
*Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь*

*Выходзіць з 1932 года*

*Газету рэдагавалі*
*Х.Дунец (1932–35)*
*І.Гурскі (1935–41)*
*А.Куляшоў (1945–46)*
*М.Горцаў (1947–49)*
*П.Кавалёў (1949–50)*
*В.Вітка (1951–57)*
*М.Ткачоў (1957–59)*
*Я.Шарахоўскі (1959–61)*
*Н.Пашкевіч (1961–69)*
*Л.Прокша (1969–72)*
*Х.Жычка (1972–76)*
*А.Асіпенка (1976–80)*
*А.Жук (1980–86)*
*А.Вярцінскі (1986–90)*

*Галоўны рэдактар*
***Мікола ГІЛЬ***

*РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:*
*Святлана БЕРАСЦЕНЬ,*
*Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара),*
*Юрась ЗАЛОСКА,*
*Міхась ЗАМСКІ,*
*Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,*
*Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара),*
*Юрась СВІРКА*

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
***220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.***

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*прыёмная рэдакцыі 332-461*
*намеснікі галоўнага рэдактара 332-525, 331-985*
*аддзелы:*
*публіцыстыкі 332-525*
*пісьмаў і грамадскай думкі 331-985*
*літаратурнага жыцця 332-462*
*крытыкі і бібліяграфіі 332-204*
*паэзіі і прозы 332-204*
*музыкі 332-153*
*тэатра, кіно і тэлебачання 332-153*
*выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў 332-462*
*навін 332-462*
*мастацкага афармлення 332-204*
*фотакарэспандэнт 332-462*
*бухгалтэрыя 268-640*

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдыкцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

*Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах*

*Друкарня "Беларускі Дом друку"*

*Індэкс 63856. Наклад 19.000.*
*Нумар падпісаны 10.02.1994 г.*

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

